ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№30
(2536)

24 ліпеня 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.




## «СЛАВЯНСКІ БАЗАР-97»



**Цэлы тыдзень гудзеў у Віцебску слынны "Славянскі базар". На гэты раз ён прынёс нам, беларусам, набытак: другую прэмію конкурсу маладых выканаўцаў VI Міжнароднага фестывалю мастацтваў здабыла Марына Жолудзева з Оршы.**

**НА ЗДЫМКАХ: Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА 12 ліпеня адкрыў міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар"; у гэтым амфітэатры праходзілі канцэрты фестывалю.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ і Аляксандра ХІТРОВА.**

*КУДЫ ПАЕХАЦЬ НА ЗАРОБКІ?*

## ДОБРА ТАМ, ДЗЕ НАС НЯМА

**Ва ўмовах нарастаючага беспрацоўя, эканамічнага крызісу і скарачэння аб'ёмаў вытворчасці пытанне экспарту рабочай сілы з Рэспублікі Беларусь у іншыя краіны становіцца асабліва важным, і задача магчымага пошуку новых рабочых месцаў як у краіне, так і за мяжой сёння з'яўляецца асабліва актуальнай.**

Многія беларусы ў паездцы на працу за мяжу бачаць адзіную магчымасць паправіць матэрыяльнае становішча і рэалізаваць сябе. Сацыялагічныя апытанні, праведзеныя Інстытутам сацыялогіі і Службай занятасці, гавораць аб тым, што выехаць за межы краіны на працу жадае ад 15 да 20 працэнтаў эканамічна актыўнага насельніцтва. Даследаванні, якія праводзіліся па Віцебскай вобласці, паказалі, што каля 25 працэнтаў маладых людзей хацелі б, выехаўшы за рубеж у пошуках працы, замацавацца ў эканамічна развітых краінах і застацца там жыць. Аднак, як паказвае апытанне і ўсё тыя ж сацыялагічныя даследаванні, зваротная міграцыя ўсё ж з'яўляецца пераважнай формай у сферы знешнепрацоўнай эканамічнай міграцыі, і большасць з тых, хто ад'язджаў на працу, імкнецца, зарабіўшы грошай, вярнуцца дадому.

Ва ўсім свеце краіны-экспарцёры рабочай сілы разглядаюць працэсы зваротнай міграцыі, як вельмі станоўчыя, бо, па-першае, яна дазваляе за кошт паехаўшых зменшыць сацыяльную напружанасць на ўнутраным рынку, а па-другое, трапіўшы ў больш развітыя краіны, працоўныя мігранты абучаюцца перадавым тэхналогіям, набываюць вопыт і майстэрства, якія потым "экспартуюць" на радзіму. Многія з іх пасля вяртання ствараюць сваю справу. Для краін, якія традыцыйна экспартуюць працоўную сілу на сусветны рынак, такіх, як Філіпіны, Новая Зеландыя, Бангладэш, Іран, Турцыя, грамадзяне, якія працуюць за мяжой, з'яўляюцца вельмі сур'ёзнай крыніцай валютных паступленняў у іх эканоміку.

Беларусь, уключаючыся ў гэты працэс, адчувае пэўныя цяжкасці, бо міжнародны рынак працы ўжо падзелены, і знайсці там сваё месца сёння вельмі цяжка. Больш таго, для многіх развітых краін, напрыклад, Германіі, лішак увезенай за перыяд уздыму эканомікі таннай рабочай сілы ператвараецца ў сур'ёзную праблему. Паколькі сёння ў краінах ЕЭС колькасць беспрацоўных складае 18 мільёнаў чалавек, гэтыя краіны ажыццяўляюць жорсткую дыскрымінацыйную палітыку ў адносінах да працоўных мігрантаў з дзяржаў трэцяга свету і краін з пераходнай эканомікай.

Спрабаваць спыніць выезд за мяжу ў пошуках працы — справа безнадзейная, ды і бессэнсоўная, гэты працэс можна толькі ўпарадкаваць. З 1992 года пры Дзяржаўнай

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

## ЧАС ДАВЕРНАГА ДЫЯЛОГА ЯШЧЭ ПРЫЙДЗЕ

**Напярэдадні нацыянальнага свята Французскай Рэспублікі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол гэтай дзяржавы ў Беларусі Клод ЖАЛІФ адказаў на пытанні нашага карэспандэнта.**

*— Пан Пасол! 14 ліпеня Французская Рэспубліка адзначае нацыянальнае свята ў памяць падзей 1789 года. Ці не маглі б вы больш падрабязна расказаць нашым чытачам аб тых далёкіх і незабыўных днях?*

— Пастаноўка вашага пытання патрабуе ўдакладнення, і для гэтага трэба ўспомніць падзеі, якія прывялі да ўстанаўлення Нацыянальнага свята: пасля вайны 1870 года і Парыжскай Камуны ў Францыі ўсталёўваецца рэспубліка; аднак манархістаў у Асамблеі большасць, і яны рыхтуюць вяртанне каралеўскай улады. Толькі ў час выбараў 1876 года перамогу атрымліваюць рэспубліканскія партыі, і новы рэжым канчаткова стварае свае інстытуты. Зыходзячы з гэтага, у 1880 годзе 14 ліпеня становіцца нацыянальным святам; але, каб не выклікаць вялікага незадавальнення сярод часткі грамадскай думкі, закон, які яго абвяшчае, не ўдакладняе прычыны выбару гэтай даты. Такім чынам, атрымалася два 14 ліпеня: 14 ліпеня 1789, дзень узяцця Бастыліі, які сімвалізуе паўстанне і перамогу над тыраніяй, і 14 ліпеня 1790, Свята Федэрацыі (яно прайшло ў Парыжы на Марсавым Полі, там, дзе цяпер знаходзіцца Эйфелева вежа), якое было ў час рэвалюцыі адным з рэдкіх момантаў нацыянальнага адзінства розных слаёў грамадства, і ў святкаванні якога прымаў удзел сам кароль, які ў гэты дзень яшчэ знаходзіўся на троне. Такім чынам, 14 ліпеня — гэта адначасова і сімвал свабоды (1789), і сімвал адзінства (1790).

*— Якое ж сімвалічнае значэнне 14 ліпеня для французскага народа сёння і як гэта дата адзначаецца ў Францыі?*

— Дзень 14 ліпеня хутка страціў свой палітычны аспект (перамога левых над правымі), які ён меў у 1880. Яго зрабіла вельмі папулярным, крыху парадаксальным чынам тое, што, пачынаючы з першых гадоў святкавання, ён быў адзначаны правядзеннем ваеннага парада: размова ішла пра тое, каб узняць прэстыж французскай арміі пасля ганебнага паражэння ў 1870 годзе ў вайне з Прусіяй у вачах грамадскасці, якое марыла толькі аб рэваншы. Гэты каларытны і патрыятычны спектакль спадабаўся народу, і 14

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

ДА 480-ГОДДЗЯ БЕЛАРУСКАГА КНІГАДРУКАВАННЯ

## ЯК ЗВАЛІ НАШАГА ПЕРШАДРУКАРА?

З увагаю прачытаў артыкул Марата Батвінніка "Акадэмічныя погляды на Ф. Скарыну ў мінулым" ("Голас Радзімы", 1997, № 21 ад 22 мая). Хоць з матэрыяламі і звесткамі тымі я быў знаёмы раней, аднак з карысцю для сябе адсвяжыў у сваёй памяці тое, што паспеў падзабыць. Я ўпэўнены, што асноўная частка чытачоў, пазбаўленая доступу да першакрыніц і тых матэрыялаў, якія там шырока выкарыстоўваюцца, добра ўзбагаціцца канкрэтнымі і змястоўнымі звесткамі і інфармацыяй аб адным з важных пытанняў гісторыі нашай культуры.

Артыкул у цэлым заслугоўвае добрага слова. Але я спатыкнуўся, натрапіўшы на першую фразу: "Апафеозам вывучэння жыцця і дзейнасці Ф. Скарыны ў Інбелкульце быў, безумоўна, навуковы зборнік артыкулаў, які выйшаў у Мінску ў 1926 годзе пад назвай "400-лецце беларускага друку", прысвечаны беларускаму гуманісту, асветніку і першадрукару Францыску Скарыне".

У мяне стварылася ўражанне, што аўтар не заўважыў той палемікі, якая на працягу апошняга дзесяцігоддзя вялася вакол імені нашага першадрукара. Між тым форма Францыск, якую ён узяў на ўзбраенне і звязаў са зборнікам "400-лецце беларускага друку", ні разу ў ім не сустракаецца.

Нагадаю факты, якія нейкім чынам аўтар абмінуў. І не толькі ён, бо форма Францыск укаранілася ў свядомасці некаторых людзей як шматгадовае, устойлівае да праполкі пустазелле. Ёсць такія расліны, якія растуць сабе і растуць, хоць як быццам бы месца ім на культурнай глебе быць не павінна. Нават у 1996 годзе "Францыск" трапіў у

**(Працяг на 5-й стар.).**

ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*У АФІЦЫЙНЫМ ЛЮСТЭРКУ*

## ТРЫ ГАДЫ ПРЭЗІДЭНЦКАЙ ДЗЯРЖАВЫ АЗНАМЕНАВАЛІСЯ ВЕЛЬМІ НАПРУЖАНАЙ І ЦІКАВАЙ РАБОТАЙ

**10 ліпеня споўнілася роўна тры гады з часу ўступлення на пасаду першага Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, выбранага ў выніку прэзідэнцкіх выбараў у адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Стварэнне іміджу беларускай дзяржавы ў новай якасці на сусветнай арэне ў вялікай ступені залежала ад работы знешнепалітычнага ведамства краіны.**

**З гэтай нагоды міністр замежных спраў рэспублікі Іван Антановіч сказаў, што тры гады азнаменаваліся вельмі напружанай і вельмі цікавай работай. Беларусь пашырыла свае дыпламатычнае прадстаўніцтва ў свеце. У сваю чаргу, у рэспубліцы адкрылася шмат новых пасольстваў і акрэдытавана шмат дыпламатаў замежных краін. На жаль, з-за недахопу сродкаў наша дзяржава не паспявае адкрываць свае пасольствы ў тых краінах, чые прадстаўнікі працуюць у нас.**

**Міністр адзначыў, што Беларусь значна актывізавала свой удзел у праграмах міжнародных арганізацый, асабліва Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і ЮНЕСКА. Рэспубліка імкнецца да ўступлення ў Сусветную гандлёвую арганізацыю (СГА).**

**На думку Івана Антановіча, да нашай краіны цяпер праяўляецца вельмі вялікая, шчырая, а часам напружаная цікавасць. Ёсць і прыхільнікі працэсаў, якія адбываюцца ў Беларусі, і праціўнікі. Але дзяржава вядзе дыялогі з адным, і з другімі, выкарыстоўваючы каналы знешнепалітычнага ведамства, міжнародныя арганізацыі і двухбаковыя сувязі.**

**Знешняя палітыка Беларусі, паводле яго слоў, паранейшаму вызначаецца шматвектарнасцю. Хоць, вядома ж, прыярытэтнымі застаюцца адносіны з Расіяй і краінамі блізкага замежжа. У сувязі з гэтым кіраўнік беларускай дыпламатыі з задавальненнем канстатаваў дружалюбны характар адносін са сваімі традыцыйнымі партнёрамі. "Ні адна з краін, з якой у нас склаліся добрасуседскія адносіны, не нясе нам патэнцыяльнай ваеннай або якой-небудзь іншай пагрозы", — сказаў міністр.**

**Паводле слоў Івана Антановіча, цэлы шэраг крокаў беларускай дзяржавы, які крытыкаваўся еўрапейскімі рэгіянальнымі арганізацыямі, цяпер імі ўважліва вывучаецца, і рэспубліка вядзе з гэтымі арганізацыямі напружаны дыялог. "Мы імкнёмся да еўрапейскай інтэграцыі. І Саюз Беларусі і Расіі першапачаткова задумваўся як паскарэнне інтэграцыі дзвюх краін у працэсе развіцця Еўропы", — заявіў міністр.**

**Кіраўнік беларускай дыпламатыі лічыць, што цікавасць да нашай дзяржавы ў свеце велізарная. Вельмі вялікая цікавасць і да Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі як да лідэра, які дзейнічае самастойна.**

*ПЕРШЫ ВЫПУСК*




**280 сёлетніх выпускнікоў Гомельскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута далі клятву Гіпакрата. Усе яны накіраваны працаваць у райбальніцы Гомельскай вобласці, як і прадугледжвалася пры іх паступленні ў інстытут. Гэта першы выпуск Гомельскага медінстытута.**

**НА ЗДЫМКУ: Дзмітрый ГРАМЫКА, які скончыў інстытут з чырвоным дыпломам, Наталля АХЛЕСЦІНА заканчвае ВНУ ў наступным годзе па спецыяльнасці "Лячэбная справа", а ў гэтыя дні маладыя людзі рыхтуюцца да вяселля, якое адбудзецца ў канцы ліпеня.**

*ДЫПЛАМАТЫЧНЫ КУР'ЕР*

## МІКАЛАЙ ЛЯПЕШКА — БЕЛАРУСКІ ПАСОЛ У ТУРЦЫІ

**Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Турцыі Мікалай Ляпешка ўручыў у Анкары даверчыя граматы турэцкаму прэзідэнту Сулейману Дэмірэлю. Акрамя таго, у Стамбуле плануецца адкрыць генеральнае консульства нашай краіны.**

**Першы беларускі пасол у Турцыі лічыць, што турэцка-беларускія адносіны дынамічна развіваюцца і маюць добрыя перспектывы. На яго думку, найбольш прадукцыйныя яны ў галіне будаўніцтва, гандлю, тэлекамунікацый і турызму, ваенна-тэхнічнай галіне.**

*СТАРАСТА*



**Стараста на вёсцы сёння фігура хоць і новая, але паважаная. Абы каго не выберуць. У вёсцы Шылін Бярозаўскага раёна на гэтую грамадскую пасаду абрана загадчыца малочна-таварнай фермы Раіса Карпук. Больш 20 гадоў прарабіла яна ў мясцовым калгасе "Земляроб". Нарадзілася ў Шыліне, ведае тут усіх ад малога да вялікага. А ў вёсцы 260 жыхароў, прычым, 213 пенсіянеры. Вось і стараецца Раіса Мікалаеўна, каб забяспечыць іх з дапамогай мясцовага калгаса сенам, зямельнымі надзеламі, палівам. Ды ці толькі гэты клопат у старасты...**

**НА ЗДЫМКУ: стараста вёскі Шылін Раіса КАРПУК.**

*ПРАФСАЮЗЫ — УРАД*

## КАЛІ ПАВЫШАЦЬ ЗАРПЛАТУ

**Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі не згодна з асноўнымі прапановамі Міністэрства працы па рэфармаванню сістэмы аплаты працы, пра што было заяўлена на нядаўнім пасяджэнні трохбаковага Нацыянальнага савета па працоўных і сацыяльных пытаннях.**

**Прафсаюзы, у прыватнасці, настойваюць на павелічэнні тарыфнай стаўкі першага разраду і мінімальнай зарплаты не з 1 студзеня 1998 года, як гэта плануецца Міністэрствам працы, а з 1 жніўня гэтага года, улічваючы рост цэн на прадукты харчавання і жыллёва-камунальныя тарыфы.**

*ПАСЛЯ ЎРАГАНУ*

## ЯШЧЭ АДНА АХВЯРА

**У 9-й клінічнай бальніцы сталіцы памёр ад ран 14-гадовы Павел Купрыенка з пасёлка Ратамка Мінскай вобласці. Ён стаў шостай ахвярай страшнага ўрагана, што пранёсся 23 чэрвеня над некаторымі рэгіёнамі рэспублікі.**

**Што ж тычыцца ліквідацыі вынікаў стыхіі, то цяпер усе намаганні накіраваны на аднаўленне збожжасховішчаў, ферм, іншых вытворчых памяшканняў. Паводле даных на 12 ліпеня, па рэспубліцы іх адноўлена 55 працэнтаў. На чарзе — 1 367 аб'ектаў.**

**Спецыялісты Міністэрства лясной гаспадаркі канчаткова высветлілі плошчы пашкоджаных ураганам лясных угоддзяў, якія патрабуюць суцэльнай санітарнай высечкі. Пакуль удалося расчысціць толькі каля 4 працэнтаў лясных плошчаў, застаецца правесці работу яшчэ на 6 тысячах гектараў.**

*ПАМЯЦЬ*

## НА БРОННУЮ ГАРУ

**У Брэсце пабывала амерыкана-ізраільская дэлегацыя, якая ўключае 70 членаў асацыяцыі яўрэяў — выхадцаў з Брэста.**

**Нехта паехаў з горада яшчэ да вайны, іншыя пакінулі родныя мясціны пасля вызвалення і ў мірныя гады. Многім ужо за восемдзесят. І цяпер яны ўсё вастрэй адчуваюць, як шмат незваротна засталося ў іх там, дзе прайшла маладосць, дзе было часам да болю цяжка.**

**Госці, якімі ў паездцы кіраваў былы жыхар Брэста, цяпер супрацоўнік іерусалімскага муніцыпалітэта Генадзь Пекар, наведалі трагічную Бронную гару, гарадскія святыні. Дэлегацыя была прынята брэсцкім губернатарам У. Заламаем. Кульмінацыяй знаходжання гасцей у Брэсце стала акцыя "Агні на рэйках" — госці палілі свечкі на чыгуначным пераездзе, адкуль у час вайны фашысты адпраўлялі эшалоны ахвяр на Бронную гару, месца пакарання яўрэяў.**

*ПАРТЫЙНАЕ ЖЫЦЦЁ*

## ВІЗІТ САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТАЎ

**У Пінску пабывалі лідэр беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі "Народная грамада" Мікалай Статкевіч і кіраўнік арганізацыі СДПГ зямлі Шлезвіг-Гольдштэйн (Германія) Габрыэла Катшау.**

**У Палацы культуры трыкатажнікаў яны сустрэліся з гараджанамі, расказалі пра мэты сацыял-дэмакратыі і шляхі іх дасягнення, адказалі на шматлікія пытанні прысутных.**

**Гэты візіт — адзін з вялікай серыі паездак па гарадах Беларусі, ажыццёўленых апошнім часам. Аналагічныя сустрэчы з насельніцтвам адбыліся ўжо ў Віцебску, Гомелі, Магілёве, Салігорску, Мазыры і іншых рэгіёнах.**

*УВОЗ—ВЫВАЗ*

## ВАЛЮТА ЦЕРАЗ ГРАНІЦУ

**Згодна з распараджэннем банка Беларусі, з 1 жніўня гэтага года ўводзяцца некаторыя змены ў парадак перамяшчэння цераз граніцу рэспублікі замежнай валюты фізічнымі асобамі.**

**Так, істотна зменшыцца максімальная сума беларускіх рублёў, дазволеная для вывазу за мяжу, — з 500 да 100 мінімальных заработных плат. Акрамя таго, з 1 жніўня будзе дазволена перасылка з Беларусі і ў Беларусь замежнай валюты ў суме, што не перавышае ў эквіваленце 200 долараў ЗША.**

**Што ж тычыцца ўвозу ў рэспубліку замежнай валюты, то ён будзе рабіцца бесперашкодна, з захаваннем існуючага мытнага заканадаўства.**

*«МАГУТНЫ БОЖА»*

## ГУЧЫЦЬ ДУХОЎНАЯ МУЗЫКА




**Некалькі дзён у Магілёве пад скляпеннямі касцёла св. Станіслава з поспехам праходзілі канцэрты пятага міжнароднага фестывалю хрысціянскай музыкі "Магутны Божа". Сюды з'ехаліся творчыя калектывы з Мінска, Рыгі, Польшчы, Грузіі, Украіны. Сёлетні фестываль меў самы высокі творчы ўзровень у параўнанні з папярэднімі.**

**НА ЗДЫМКУ: юны саліст духавога аркестра "Зволеня" з Польшчы.**

*ПРЫВАБНАЯ ПЕРСПЕКТЫВА*

## СТЫКОЎКА АПОШНЯГА ЗВЯНА

**Выканана стыкоўка валаконна-аптычнай лініі сувязі Мінск — Кіеў, працягласцю 553 кіламетры. Усяго ж за два гады па тэрыторыі нашай рэспублікі пракладзена 1 250 кіламетраў гэтага кабеля. Валаконна-аптычная сістэма дазволіць ужо цяпер атрымаць 1 860 каналаў сувязі, а ў будучыні — да 13 тысяч.**

**Гэтая лінія дасць магчымасць нашай рэспубліцы ўключыцца ў структуру міжнацыянальнай сістэмы ІТУР, у якую ўваходзяць Італія, Турцыя, Украіна і Расія.**

# ДОБРА ТАМ, ДЗЕ НАС НЯМА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

міграцыйнай службе існуе Камітэт па міграцыі, які і займаецца пытаннямі рэгулявання гэтых працэсаў. Асноўны дакумент, якім кіруецца даная служба, — прынятая 10 снежня 1993 года пастанова ўрада "Аб мерах па рэгуляванню знешнепрацоўнай міграцыі", якой былі вызначаны органы дзяржаўнага кіравання, што займаюцца рэгуляваннем гэтых працэсаў, а таксама зацверджана часовае Палажэнне аб знешнепрацоўнай міграцыі.

Фірмы, якія займаюцца экспартам працоўнай сілы, павінны ў абавязковым парадку прадастаўляць сацыяльныя гарантыі ў выпадку нанясення страт здароўю кліента, акрамя таго, асобным пунктам агаворваецца, што ў выпадку смерці работніка, які накіроўваецца за рубеж, фірма павінна забяспечыць дастаўку цела пацярпелага на радзіму. На жаль, факты гібелі працуючых за мяжой людзей у нас ужо былі, і крыўдна, што адбыліся яны не ў працэсе вытворчасці, а з-за бесталковасці саміх людзей. Так, двое нашых суграмадзян, прыехаўшы працаваць у Грэцыю, кінуўшы ў гасцініцы свае рэчы, накіраваліся ў бліжэйшыя магазіны. Звыклы пераход вуліцы ў неналежным месцы ў чужой краіне каштаваў ім жыцця...

На сённяшні дзень у Беларусі каля сямідзесяці фірмаў маюць ліцэнзіі на права дзейнасці ў сферы знешнепрацоўнай міграцыі, аднак працуе з іх сёння прыкладна трэць. Прычын мноства: у адных сарваліся заключаныя раней кантракты або дамоўленасці, другім партнёр выставіў непрымальныя для нашых грамадзян умовы, трэція проста не ўяўлялі рэальна, які аб'ём работы іх чакае. Колькасць людзей, што едуць працаваць за мяжу па афіцыйных каналах, расце, але вельмі павольна: у 1994 годзе, па афіцыйнай статыстыцы, фірмамі-пасрэднікамі было адпраўлена за мяжу 1 314 чалавек, а ў 1996 годзе — 1 894. Такія нізкія паказчыкі абумоўлены ў першую чаргу тым, што мы спрабуем прабіцца на ўжо сфарміраваны і цалкам запоўнены заходні рынак працоўнай сілы, ды яшчэ тады, калі заходнія краіны жорстка ўзмацнілі ўсе формы ўязнога, таможнага і іміграцыйнага кантролю, аддаючы перавагу абмену рабочай сілай сярод "сваіх". У многіх краінах, як, напрыклад, у Даніі, прафсаюзы, абараняючы інтарэсы сваіх грамадзян, блакіруюць паступленне замежнай працоўнай сілы на рынак нават на сезонныя работы. Акрамя таго, мы адчуваем вялікую канкурэнцыю ў асобе нашых суседзяў, і ў першую чаргу Украіны, паколькі эканамічнае становішча блізкага суседа яшчэ больш складанае, чым у нас, узровень беспрацоўя там вышэйшы, а значыць, больш нізкія патрабаванні да аплаты і сацыяльнай абароны. Здараецца, што ўкраінцы, гранічна зніжаючы планку патрабаванняў, выцясняюць беларускія пасрэдніцкія фірмы з рынкаў працы Польшчы і іншых краін, прадастаўляючы танную працоўную сілу.

На сённяшні дзень больш за ўсё беларусаў працуе ў Расіі. Назваць дакладную лічбу тут вельмі цяжка, паколькі з мінулага года ў нас з Расіяй ажыццяўляецца безліцэнзійны абмен рабочай сілай. Нямала беларусаў працуе на нафтаперапрацоўчым комплексе ў Заходняй Сібіры, нашы суайчыннікі заўсёды цаніліся як добрыя будаўнікі, якіх ахвотна бралі на работу і ў самой Маскве. Ёсць падставы лічыць, што ў Расіі сёння працуе прыкладна палова ўсіх працоўных мігрантаў з Беларусі. Спрабуючы забяспечыць максімальна магчымы на даным этапе выхад на міжнародны рынак працы, Беларусь заключае пагадненні аб абмене рабочай сілай з іншымі дзяржавамі, у прыватнасці, з Малдовай, Украінай, Польшчай, Літвой. Аднак абмен з гэтымі дзяржавамі ў рамках вышэй памянёных пагадненняў, за выключэннем Расіі, нязначны. Да мінулага года сур'ёзным імпарцёрам беларускай рабочай сілы была Польшча, вядзецца работа па заключэнні пагадненняў з Чэхіяй, Германіяй, рыхтуюцца дагаворы з Манголіяй і Казахстанам. Нядаўна Беларусь наведала ўрадавая дэлегацыя з Арабскіх Эміратаў, якая была прынята ў Міністэрстве працы, дзе разглядалася пытанне магчымага экспарту беларускай рабочай сілы ў ААЭ. Відаць, ёсць будучыня ў адносін з Ізраілем: там было разгорнута вялікае будаўніцтва, але ў сувязі з абвастрэннем канфлікту з Палесцінай паўстала праблема з рабочай сілай, вырашыць якую мяркуецца пры ўдзеле беларускіх рабочых.

Прычым, у наладжванні гэтых кантактаў вялікую ролю адыгрываюць былыя грамадзяне Беларусі, якія жывуць цяпер у Ізраілі. Вельмі хочацца верыць, што ўсе гэтыя планы будуць мець паспяховы працяг, але на пытанне, у якой якасці мы патрэбны на сусветным рынку, у Камітэце па міграцыі адказалі, што там нас згодныя выкарыстоўваць толькі ў якасці некваліфікаванай рабочай сілы на цяжкіх відах работ. На просьбу назваць самую цікавую і паспяховую фірму мне параілі звярнуцца ў "Совэкс". Аднак там чакаў сюрпрыз: на просьбу сустрэцца атрымала адмову, растлумачылі, што фірма закрываецца, бо беларуская рабочая сіла проста нікому непатрэбная. Тым не менш, пасля доўгіх пошукаў удалося знайсці фірму, якая ўжо не першы год, хоць і ў невялікіх аб'ёмах, паспяхова вырашае праблему працаўладкавання беларускіх грамадзян за мяжой.

Малое прадпрыемства "Жамчужына" ўжо амаль шэсць гадоў займаецца турызмам, спецыялізуючыся на замежных адукацыйных праграмах, а апошнія гады і працаўладкаванні за мяжой. Маладыя людзі 18—20 гадоў могуць паехаць у Германію, Францыю, Італію або ЗША, дзе будуць наведваць моўныя курсы і даглядаць дзяцей, за што атрымаюць бясплатнае харчаванне, асобны пакой, страхоўку і кішэнныя грошы, якія складаюць у месяц ад 200 долараў у Італіі да 530 — у ЗША. Па гэтай праграме Германія прадастаўляе бясплатную візу, а ЗША аплачвае палёт да Нью-Йорка і назад. Ёсць праграма, якая прадугледжвае вывучэнне мовы ў Вялікабрытаніі праз работу ў гасцініцах, рэстаранах, дзіцячых дамах і гэтак далей. Праца дазваляе вярнуць грошы, укладзеныя ва ўласную адукацыю, бо ў рамках гэтай праграмы даводзіцца аплачваць білеты і прадаплачваць навучанне.

Усе гэтыя праграмы, разлічаныя выключна на маладых людзей, даюць ім бліскучую магчымасць за адносна невялікую плату ўдасканаліць замежную мову, пабачыць іншую краіну, пазнаёміцца з чужым жыццём "знутры", стаць больш самастойным: васемнаццацігадовая дзяўчына можа сама прафінансаваць сваё навучанне за мяжой і зусім нядрэнна зарабіць: у Германіі пасля заканчэння праграмы моладзь атрымлівае да пяці тысяч марак, і многія з іх вяртаюцца дадому на ўласных аўтамабілях.

Знешнепрацоўная міграцыя прадастаўляе вельмі шырокае поле для розных злоўжыванняў і махінацый. Варта ўспомніць гісторыю з наборам грамадзян для работы на нарвежскіх нафтавых платформах. Гэта афёра дасягнула такога размаху, што ўпраўленне па знешнепрацоўнай міграцыі Беларусі было вымушана зрабіць запыт на радзіму нафтавых платформаў. Як паведамілі афіцыйныя прадстаўнікі органаў Міністэрства працы і дэпартамента па міграцыі Нарвегіі, ніводная дзяржаўная структура або прыватная фірма гэтай краіны такога набору не вядзе. Што ж датычыць фірм, якія арганізоўваюць набор дзяўчат на працу ў барах, кафэ і г. д., то пытанне выезду за мяжу асоб так званых свабодных прафесій — артыстаў, мастакоў, скульптараў, танцоўшчыц не падлягае ліцэнзаванню. Таму для набору тых жа танцоўшчыц ствараюцца самастойныя часовыя працоўныя калектывы, і тады ўжо клопат юрыдычных асоб, якія арганізоўваюць набор, забяспечваць адпаведныя ўмовы кантрактаў і абараняць інтарэсы гэтых грамадзян. Аднак, нягледзячы на тое, што адпраўляюць прадстаўнікоў свабодных прафесій за мяжу нейкія самастойныя структуры, вяртаць іх дадому нярэдка даводзіцца дзяржаве. Былі выпадкі, калі пасольствы або дыпламатычныя прадстаўніцтвы тых ці іншых дзяржаў інфармавалі беларускае Упраўленне па міграцыі аб тым, што на тэрыторыях іх дзяржаў незаконна дзейнічаюць беларускія калектывы. У такіх выпадках ім тлумачаць, што, на жаль, дзяржава гэты працэс не рэгулюе, і паколькі яны — на тэрыторыі вашай краіны, то і праблема гэта, такім чынам, ваша, а не наша.

Аднак было б памылковым лічыць, што махінацыямі ў гэтым бізнесе займаюцца толькі нашы фірмы. Заходнія партнёры маюць больш вопыту і, на жаль, не толькі ў справе аказання пасрэдніцкіх паслуг. Найбольш распаўсюджаны від махлярства — сабраць грошы пад выглядам выгаднага працаўладкавання за мяжой, а потым бясследна знікнуць. Махлярства з працаўладкаваннем замежнай працоўнай сілы распаўсюджана ва ўсім свеце, яно атрымала вельмі шырокі размах і прыносіць велізарныя даходы. Паводле інфармацыі міжнароднай арганізацыі па працоўнай міграцыі, адзін нелегальна вывезены ў краіну працоўны мігрант каштуе пяць тысяч долараў...

Але не толькі беларусы шукаюць лепшай долі за мяжой. Грамадзяне іншых краін таксама спрабуюць знайсці працу на тэрыторыі нашай дзяржавы. На фоне ўзрастаючага беспрацоўя інтарэсы беларусаў абараняе закон "Аб занятасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь", якім вызначана, што прыярытэтнае права на заняцце вакантных пасад маюць грамадзяне рэспублікі, а іншаземцы прымаюцца на працу толькі па адпаведных ліцэнзіях камітэта па міграцыі.

— Мы сочым за працэсам уезду замежных грамадзян у краіну, — гаворыць намеснік начальніка Упраўлення знешнепрацоўнай міграцыі Камітэта па міграцыі пры Міністэрстве працы Анатоль Лемешаў. Дынаміка ўезду стала больш інтэнсіўнай, многія прыязджаюць па дамоўленасці з гаспадаркамі, фірмамі, ствараецца мноства прадпрыемстваў з замежным і змешаным капіталам.

Ужо пасля перарэгістрацыі ў рэспубліцы дзейнічае 1 537 прадпрыемстваў з замежным і змешаным капіталам, з іх 966 сумесных прадпрыемстваў, 571 замежнае прадпрыемства, каля 300 прадстаўніцтваў замежных фірм. Па міжнароднай практыцы кіруючы састаў гэтых прадпрыемстваў прыязджае ў краіну безліцэнзійна, як правіла, гэта тры чалавекі. Просты арыфметычны падлік дазваляе меркаваць, што сёння ў гэтых фірмах афіцыйна працуе каля 4 тысяч іншаземцаў. Таксама ў Беларусі працуюць міжнародныя арганізацыі са сваім штатам і шэраг фірм па выкананню крэдытных ліній Банка рэканструкцыі і развіцця, у прыватнасці, на белаўтастрадзе Брэст — Масква, на будаўніцтве філіяла завода "Форд". Але без праблем не абыходзіцца і тут.

Для будаўніцтва беларускай часткі газаправода Ямал — Еўропа "Газпром", які крэдытуе будаўніцтва, увёз значную колькасць расійскіх грамадзян. Аднак побач з расіянамі, якіх Беларусь прымае без ліцэнзій, субпадрадчыкі ўвезлі нямала грамадзян іншых краін — Украіны, Арменіі, Германіі. Бываюць выпадкі, калі кіраўнікі прадпрыемстваў або калгасаў прымаюць на працу без ліцэнзій грамадзян былых савецкіх рэспублік. Аднак інтэрнацыяналізм сёння непапулярны, і даводзіцца кіравацца меркаваннямі эканамічнай мэтазгоднасці. У мінулым годзе ў выніку рэспубліканскай праверкі нелегальнага працаўладкавання замежных грамадзян у даход дзяржавы атрымана больш як шэсцьсот мільёнаў рублёў, сёлета гэта сума набліжаецца да мільярда. Як вядома, нямала нелегальных мігрантаў самастойна засяліліся ў раёнах каля Чарнобыльскай АЭС. Дзяржава вырашыла ўзяць гэты некіруемы працэс пад свой кантроль. Была прынята ўрадавая пастанова, у якой аблвыканкомам гэтых тэрыторый прадастаўлена права пакідаць нелегалаў на жыхарства там, дзе сёння патрэбны рабочыя рукі. Аднак, дазволіўшы ім працаваць у забруджаных раёнах, дзяржава не палічыла магчымым прадаставіць ім ільготы, якія належаць грамадзянам, што жывуць на забруджаных тэрыторыях.

Хочацца спадзявацца, што шматлікія праблемы, звязаныя з праблемамі працоўнай міграцыі дапаможа вырашыць падрыхтаваны закон "Аб знешнепрацоўнай міграцыі". Аднак, як паказвае вопыт, многія грамадзяне адпраўляюцца працаваць за мяжу самастойна, на свой страх і рызыку, і гэтыя працэсы будуць працягвацца да таго часу, пакуль працаўладкаванне на радзіме не стане больш прывабным, чым поўнае небяспекі, часта бяспраўнае і нелегальнае існаванне ў далёкіх краінах, дзе мы патрэбны толькі ў якасці чорнарабочых...

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ



**"Прыдарожны" гандаль стаў сёння прыкметай часу. Калі ў людзей няма іншага спосабу зарабіць на хлеб надзённы, выносяць тавар на бойкае месца. Тут ёсць шанс хутчэй яго збыць.**

**Многія прадаўцы посуду на Бранскай шашы, што паблізу Добруша, папоўнілі рады "гандляроў" пасля забароны на "чаўночную" дзейнасць. Расійскі рынак ад Добруша ў некалькі дзесяткаў кіламетраў і збыт ішоў там бойка. А цяпер даводзіцца прыгандлёўваць ля дарогі. Добра, што прадукцыя Добрушскай фарфоравай фабрыкі неабходная ў кожным доме.**

**НА ЗДЫМКУ: прыдарожны гандаль на Бранскай шашы ў Добрушы.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

## ПОМНІК М. ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКАМУ

**Бронзавы бюст вядомага вучонага-гісторыка Мітрафана Доўнар-Запольскага адкрыты ў Рэчыцы. З выпадку 130-годдзя з дня нараджэння на радзіму аўтара першых фундаментальных прац па гісторыі Беларусі прыехалі вучоныя не толькі з розных абласцей рэспублікі, а і з Кіева, Бранска, Санкт-Пецярбурга і іншых гарадоў. Тут адбылася двухдзённая навукова-практычная канферэнцыя, на якой падкрэслівалася выдатная роля ўраджэнца Рэчыцы ў вывучэнні гісторыі дзекабрысцкага руху і многіх іншых напрамкаў у гістарычнай навуцы.**

**Фінансавую дапамогу мясцовым уладам ва ўвекавечанні памяці вядомага земляка аказалі нафтавікі. Адкрыў бюст старшыня Рэчыцкага гарвыканкома Мікалай Заразака. У гэтай урачыстасці прымаў удзел старшыня Дзяржкамітэта па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь Аляксандр Міхальчанка.**

## НАТАТКІ ЎЛЮБЁНАГА ТУРЫСТА

# ЗАЧАРАВАННЕ НАРАЧЫ

Але месца нерасту заставалася загадкай да 1922 года, калі дацкі вучоны Еган Шміт знайшоў ікрынку вугра на глыбіні 800—900 метраў у Саргасавым моры. Дарослыя асобіны пасля нерасту гінуць, а маленькія вуграняты, падхопленыя цёплымі водамі Гальфстрыма, адносяцца да берагоў Еўропы, Афрыкі. Гэты шлях у шэсць тысяч кіламетраў малькі пераадольваюць за 2—3 гады, у дзень яны праплываюць па 15—20 кіламетраў. Калі вугор вырастае, ён зноў вяртаецца да месца свайго нараджэння і... гібелі.

* * *

Нарачанскія лясы, як і азёры, унікальныя. Падарожнічаючы, нельга не звярнуць увагу на прыгажуні бярозы. У нашай краіне іх налічваецца дзесяткі відаў. Найбольшае распаўсюджанне мае бяроза павіслая, або барадаўчатая. Але асаблівую ўвагу прыцягвае нізкарослая з пышнай кронай карэльская. Часцей за ўсё яна сустракаецца на заходнім беразе Нарачы каля тургасцініцы "Нарачанка". Праўда, пры будаўніцтве новага корпуса шмат дрэваў высеклі, можа, нават самыя прыгожыя. Але хіба магчыма параўнаць недагледжаны газон з "царскім дрэвам", як называлі яго іншаземцы, захапляючыся карэльскай бярозай. Дарэчы, у Фінляндыі невялікія кавалачкі яе драўніны ў свой час служылі разменнай манетай. Некалі карэльская бяроза ў вялікай колькасці расла ў глухіх лясах Карэліі, адкуль і атрымала сваю назву. Аднак драпежніцкае знішчэнне прывяло да таго, што цяпер яе натуральныя масівы толькі зрэдку сустракаюцца ў Карэліі, Беларусі, Прыбалтыцы.

Надзіва прыгожыя вырабы атрымліваюцца з запаціставоўтай з мармуровым малюнкам, які выпраменьвае загадкавае святло, драўніны. Унікальны матэрыял з даўніх часоў выкарыстоўвалі для вырабу мэблі, пісьмовых прылад, розных шкатулак, партсігараў, упрыгажэнняў, мастацкага посуду і да т. п. Многія рэчы, выкананыя з карэльскай бярозы рукамі народных майстроў, занялі ганаровае месца сярод экспанатаў лепшых музеяў свету.

У беласнежных бярозавых гаях і змрочных яловых барах раздолле для грыбнікоў і ягаднікаў. Рэдка хто вяртаецца з лесу без здабычы. Сярод вялікай разнастайнасці грыбоў баравікі — самая жаданая знаходка. Любяць яны тут расці ўздоўж кромак азёр. Аднойчы пашчасціла — пабачыў два маладыя баравікі, якія раслі адзін на капялюшыку другога.

Сярод белых грыбоў вучоныя налічваюць каля двух дзесяткаў разнавіднасцей. У спрыяльных умовах яны дасягаюць паўтара-двух кілаграмаў, а некаторыя аўтары прыводзяць звесткі пра сапраўдных каралёў грыбной флоры, памер капялюшыкаў якіх дасягаў у дыяметры 58 сантыметраў і маса пладовых целаў больш за 6 кілаграмаў. Заадно адзначым: ужо ў XVII стагоддзі сталі вядомыя і лячэбныя ўласцівасці белых грыбоў.

Акрамя "наземных", нарачанскія лясы багатыя не менш каштоўнымі грыбамі, якія растуць на дрэвах — капамі і чагай.

Кап — нарасць на ствалах, галінах, каранях дрэваў, якая з'яўляецца ў месцах моцнага развіцця парасткаў або на пашкоджаных участках. Слова "кап" паходзіць ад індаеўрапейскага кораня, які азначае галаву. Не выпадкова ў фларыстыцы капы выкарыстоўваюцца пры стварэнні масак.

Капавая драўніна — каштоўны тавар на многіх рынках свету. Мудрагелістасць, мармуровы малюнак тэкстуры з непаўторнымі разводамі, які ў залежнасці ад асвятлення мяняе бляск, разнастайныя патаўшчэнні і шырокая колеравая гама высока цэняцца майстрамі-чырванадрэўшчыкамі.

У Беларусі часцей за ўсё капавыя нарасці можна сустрэць на бярозах. Часам яны значных памераў і масай у некалькі сот кілаграмаў. Але як ні шмат тут капаў, іх трэба шукаць з не меншай стараннасцю, чым белыя грыбы. А вось у гарах даводзілася сустракаць цэлыя капавыя гаі, дзе на кожным дрэве было да дзесяці і больш утварэнняў розных ступені развіцця.

Нарачанскія капы захапілі мяне, і я заняўся разьбой па дрэву. У адным з такіх капаў пры апрацоўцы разец наткнуўся на металічны прадмет. Акуратна выразаўшы яго, убачыў іржавую кулю, якая вылецела са ствала, мяркуючы па ўсім, у гады першай сусветнай вайны.

Але захапленне капамі не павінна ісці на шкоду прыродзе. Здымаць капы трэба з мёртвых або выверанутых бурай дрэў, на лесапавалах, пры нарыхтоўцы драўніны.

Аднак на стройных беласнежных ствалах бяроз можна ўбачыць і пачварныя, вельмі цвёрдыя нарасці з чорнай патрэсканай паверхняй. Гэты бярозавы грыб называецца чага. Ён таксама з'яўляецца на пашкоджаных месцах. Расце павольна і за дзесяткі гадоў дасягае некалькіх кілаграмаў.



Аднойчы мяне пачаставалі чаем, завараным з чагі. Незвычайны смак запомніўся надоўга. Падарожнічаючы па розных раёнах краіны, я спрабаваў адшукаць чагу, каб пачаставаць сяброў, але нідзе не сустракаў. І толькі тут, у нарачанскім краі, знайшоў яе ў вялікай колькасці.

Народныя лекары выкарыстоўваюць чагу як лекавы сродак пры пухлінах і страўнікава-кішэчных захворваннях. Цяпер з яе робяць лекавы прэпарат пад назвай "Бефунгін", або таблеткі БІН-чага, якія выкарыстоўваюць як пры страўнікава-кішэчных захворваннях, так і для агульнатанізуючага ўздзеяння.

Лячэбныя ўласцівасці чагі мы выпрабавалі ў адным з паходаў. У турыстаў ад ужывання нясвежых прадуктаў пачалося расстройства страўніка. Заварылі чай з чагі дапамог хутка аднавіць нармальнае самаадчуванне.

* * *

Позняй восенню і ранняй вясной на Нарачы збіраюцца чароды пералётных птушак. На шляху ў далёкія краіны тут знаходзяць прытулак паўночныя гусі, качкі, лысухі, ныркі. Ранкам, калі над вадой яшчэ вісіць шызы туман, а вялікае, яркачырвонае сонца толькі-толькі выплывае з-за далягляду, бываеш міжволі ўражаны тым, як з моцнымі гукамі "ляп-ляп" лысухі перамяшчаюцца з месца на месца. Здаецца, яны не могуць адарвацца ад вады. Здалёк гэта напамінае шлях спаламіста па свежым снезе, асабліва калі не відаць птушкі, а толькі яе след на люстраной гладзі.

У гэтую пару бераг Нарачы падобны на птушыны двор. Але ў першую чаргу вашу ўвагу прыцягнуць лебедзі. Яны зноў аблюбавалі берагі Нарачы ў пачатку 80-х гадоў і сталі яе неад'емай часткай. З кожным сезонам колькасць сем'яў павялічваецца. Яны прывыклі да чалавека, смела падплываюць да берага і бяруць пачастунак проста з рук.

* * *

Водныя прасторы Нарачы, сумежных азёраў і рэк вабяць да сябе шматлікіх рыбакоў, аматараў блізкіх прагулак і далёкіх паходаў. Ад пірсаў турбасціц "Нарач" і "Нарачанка" пачынаюцца многія непаўторныя падарожжы, але самае цікавае — на байдарках па возеры Нарач, рацэ Нарач, Віліі да вёскі Міхалішкі або аж да Вільнюса. Гэты маршрут не пакідае нікога абыякавым. Апісаць яго цалкам немагчыма, але вось некаторыя ўражанні пра найбольш цікавыя мясціны.

Перасячы возера Нарач у пагодлівы дзень на лодцы або байдарцы не складзе цяжкасці. Але надвор'е тут капрызнае — з нечаканымі, рэзкімі пераменамі. Раніцай свеціць сонца, усё ціха, а к абеду наляціць ураган, разгуляецца шторм.

Аднойчы так здарылася і з намі. Выйшлі з турбазы пры добрым надвор'і, але ўжо праз гадзіну наляцеў вецер, узнялася хваля. З кожнай хвілінай валы рабіліся вышэйшыя і круцейшыя. Нам пачалі захлёстваць нашы "лазараўкі". Мы энергічна вычэрпвалі ваду, але ўзятая на буксір грузавая лодка хутка напоўнілася вадой і пачала павольна апускацца. З яе, пагойдваючыся на хвалях, як качкі, паплылі міскі, кубкі, катлы з прадуктамі, дровы, іншыя рэчы групы. Наступіў крытычны момант.

Працяг.
Пачатак у № 29.

**Юрый АКУДОВІЧ.**

# ЧАС ДАВЕРНАГА ДЫЯЛОГА ЯШЧЭ ПРЫЙДЗЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

ліпеня становіцца прычынай для спантаннай народнай весялосці. У такім выглядзе свята захавалася да нашых дзён, у ім мы пакінулі традыцыйны ваенны парад, менш за ўсё закліканы дэманстраваць сілу, хутчэй за ўсё гэта нагода паказаць усім, жывым і мірным спосабам, саюз арміі і нацыі.

*— Вы з'яўляецеся першым Паслом Французскай Рэспублікі ў Беларусі. Ці задаволены вы тым, як склаўся час знаходжання на гэтай адказнай пасадзе зроблена нямала для ўстанаўлення ўсебаковага супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі. Што вам не ў поўнай меры ўдалося ажыццявіць з задуманага?*

— Ніколі нельга быць цалкам задаволеным сваёй дзейнасцю. Але, шчыра кажучы, я не думаю, што можна было б зрабіць больш, чым было зроблена. У палітычным плане час давернага і пастаяннага дыялогу яшчэ не прыйшоў, але ён прыйдзе, і ўсё, што мы спрабавалі зрабіць, гэтаму паслужыць. З пункту гледжання эканамічных і камерцыйных адносін, вынік мог бы быць лепшы, але акалічнасці гэтаму не спрыялі; шмат патэнцыяльных партнёраў здолелі пазнаёміцца адзін з адным, і дзеянні пачалі разгортвацца. Што датычыць супрацоўніцтва ў галіне культуры і тэхнікі, яно трывала заваявала сваё месца, і яму спадарожнічае вялікі поспех: менавіта ў гэтай галіне ёсць значны задзел на будучыню, гэта фактар збліжэння розумаў.

*— Звычайна дыпламатычны пратакол не дазваляе службовым асобам паведамляць падрабязнасці асабістага жыцця. Але сёння, мабыць, той выпадак, калі можна адступіць ад гэтага правіла. Калі ласка, раскажыце пра сябе і сваіх блізкіх.*

— Пратакол мае свае патрабаванні. Але, на шчасце, ён не накладвае поўную забарону на дэманстрацыю асабістых якасцей дыпламатаў. Сапраўды, у гэтай прафесіі складана цалкам раздзяліць жыццё прафесійнае і асабістае. Але ў гэтым ёсць і пэўныя выгады, у прыватнасці, для жонкі, якая ўдзельнічае больш, чым пры любой іншай прафесіі, у дзейнасці свайго мужа: мая жонка знаходзіцца заўсёды са мной у Мінску (нашы дзеці і ўнукі жывуць у Парыжскім раёне), яна высока ацаніла кантакты, якія ў яе былі тут. Акрамя таго, можна паспрабаваць спалучыць асабістую цікаўнасць з афіцыйнымі інтарэсамі, напрыклад, для мяне, які любіць гісторыю, удзел у артыстычным жыцці і вывучэнне грамадства былі зусім не бескарыснымі занятками.

*— Вы вельмі камунікабельны чалавек. Як вам удаецца выклікаць прыхільнасць субяседнікаў?*

— Я не ўпэўнены, што змагу адказаць на ваша пытанне, таму што мне цяжка даваць ацэнку самому сабе. Але я ведаю, што кожнаму чалавеку ёсць што сказаць у сваёй галіне, калі яго змогуць выслухаць. І я лічу, што людзі часта маюць тэндэнцыю занадта шмат гаварыць і не ўмеюць добра слухаць: я стараюся рабіць адваротнае...

*— Адным з асноўных вашых захапленняў з'яўляецца чытанне. Якім жанрам і творам айчынных і зарубежных аўтараў вы аддаяце перавагу?*

— Гэта залежыць ад моманту і акалічнасцей. Тут я зацікаўлена чытаю творы і часопісы, якія датычаць гісторыі, інтэлектуальнага жыцця або рускай і беларускай рэчаіснасці, на французскай, англійскай або на рускай мовах. Я люблю перачытваць вялікіх класікаў: Бальзака, Стэндаля, таксама Дастаеўскага і Талстога, ці яшчэ Фолкнера, амерыканскага пісьменніка. Гэта не надта арыгінальна, але я люблю "адкрываць" для сябе не зусім вядомых аўтараў або чытаць тых, хто забыты; з другога боку, люблю знаходзіць сувязі паміж чалавекам і месцам. Ці ведаеце вы, напрыклад, што ў Нясвіжы і ў Шклове жылі ў XVIII стагоддзі дзеячы тэатра і балета, вельмі добра вядомыя ў Францыі?

*— Пан Пасол! У якой ступені за час знаходжання ў Беларусі вам удалося пазнаць менталітэт нашага народа?*

— Нельга быць цалкам упэўненым, што разумееш менталітэт народа: нават у Францыі ў мяне здараюцца сюрпрызы! У некаторым сэнсе, тут прасцей зразумець, таму што грамадства больш аднароднае (нягледзячы на ўсе раздзяленні), менш разгрупаванае яшчэ і таму, што сур'ёзныя праблемы зусім відавочныя, яны засланяюць сабою ўсё астатняе. З другога боку, зразумела, што іншаземец застаецца заўсёды крыху па-за рэальным мясцовым жыццём. Тым не менш, нягледзячы на ўсе бар'еры, у мяне складваецца ўражанне, што я ўваходжу досыць лёгка ў гармонію са сваімі субяседнікамі.

*— За 5 гадоў знаходжання ў Рэспубліцы Беларусь вы сустракаліся з рознымі людзьмі. Якая з сустрэч найбольш памятная для вас?*

— Найбольшыя ўражанні застаюцца ад першых сустрэч. У мяне гэта адбылося ў Парыжы ў красавіку 1992 года, яшчэ да майго прыезду ў Беларусь, калі я ўдзельнічаў у правядзенні афіцыйнага візіту Старшыні Вярхоўнага Савета ў Францыю. Дэлегацыя, на чале з панам Станіславам Шушкевічам, складалася таксама з Пятра Краўчанкі, Ніла Гілевіча, Ніны Мазай... Гэта было для мяне лепшым магчымым пачаткам дзейнасці! Але я не забуду таксама, што я быў першым паслом, які займаў пасаду ў Мінску, які нанёс візіт будучаму першаму Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь...

*— З вашага пункту гледжання, якія найбольшыя дасягненні ў галіне развіцця беларуска-французскіх адносін? Што садзейнічае і што перашкаджае іх развіццю?*

— Самай вялікай перашкодай з'яўляецца, вядома, розніца ў палітычнай, эканамічнай і сацыяльнай эвалюцыі, і спатрэбіцца яшчэ шмат часу, каб яе пераадолець. З другога боку, існуе нейкае падабенства паміж нашымі дзвюма краінамі, якое магло б аблягчыць задачу: яны аднолькава паважаюць культурныя каштоўнасці, прызнаюць адносна важную ролю дзяржавы, маюць падобныя гістарычныя пункты адліку. Таму я не песіміст, што датычыць аддаленай і не вельмі перспектывы.

*— Якія прыярытэтныя накірункі супрацоўніцтва паміж Французскай Рэспублікай і Рэспублікай Беларусь вы бачыце ў перспектыве?*

— Усё будзе залежаць ад зыходу пачатага дыялога, у форме "круглага стала", паміж урадам і апазіцыяй, пад эгідай Еўрапейскага Саюза. У інтарэсах усяго свету, каб гэты дыялог адбыўся, і кожны з бакоў павінен зразумець, што трэба ісці на кампрамісы, і як мага хутчэй! Што датычыць асобага ўкладу Францыі, я хацеў бы характарызаваць яго наступным чынам: паказаць, што краіна можа развівацца адначасова з усім астатнім светам, з пункту гледжання палітычнага і эканамічнага, захоўваючы, нават калі гэта не заўсёды лёгка, сваё "аблічча" і пэўныя асаблівасці.

*— Дазвольце павіншаваць вас, пан Пасол, і ў вашай асобе французскі народ з Нацыянальным святам і выказаць удзячнасць за тую складаную работу, якую вы правялі ў развіцці і ўмацаванні беларуска-французскіх адносін.*

*Дзякую за інтэрв'ю.*

**Ігар КУЗНЯЦОЎ.**

## АДПАЧЫВАЮЦЬ ДЗЕЦІ СУАЙЧЫННІКАЎ

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма") пасля працяглага перапынку ўзнавіла арганізацыю адпачынку дзяцей суайчыннікаў у аздараўленчых лагерах Рэспублікі Беларусь. У гэтым годзе ў лагеры "Энергетык" каля Мінска правялі некалькі тыдняў дзеці беларусаў з Башкартастана. Яны з вялікім задавальненнем адпачывалі на радзіме бацькоў. Асабліва яркія ўспаміны ў іх застануцца на доўгія гады аб святкаванні Дня Рэспублікі і 930-годдзя Мінска, у якім дзеці прымалі ўдзел. Для дзяцей суайчыннікаў з Башкартастана былі арганізаваны экскурсіі па Мінску, іх прынялі ў таварыстве "Радзіма", дзе пазнаёмілі з гісторыяй таварыства і яго дзейнасцю. У памяць аб знаходжанні дзяцей у Рэспубліцы Беларусь ім былі ўручаны сувеніры.**





**НА ЗДЫМКАХ: у час прыёму ў таварыстве "Радзіма"; дзеці беларусаў з Башкартастана знаёмяцца з Мінскам.**

**Яўген ХАРЭЎСКІ.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# ЯК ЗВАЛІ НАШАГА ПЕРШАДРУКАРА?

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

падручнік-хрэстаматыю па беларускай літаратуры для 8-га класа.

У 1967 годзе бюро Аддзялення грамадскіх навук Беларускай АН сваім рашэннем афіцыйна прысвоіла нашаму першадрукару імя Францыск. А яшчэ дазвалялася — гэта ўжо для аматараў — у дужках захоўваць імя Георгій. Ініцыятарам і ўдзельнікам тых хрэсьбінаў уяўлялася, што яны нарэшце канчаткова вырашылі спрэчнае гістарычнае пытанне, з якім да гэтага часу шмат было клопату.

Наогул пытанне аб імені Скарыны мае сваю працяглую гісторыю. Яшчэ ў XVI стагоддзі можна было сустрэць розныя формы: у лацінскіх тэкстах пісалі Franciscus, а ў беларускіх — Францишек, Франциско, Франциска, Франциском, Францышко, Францышка, Францышку і нават Францискус.

Прайшлі стагоддзі. Да спадчыны беларускага першадрукара ўсё часцей пачалі звяртацца польскія і рускія, а ў XX стагоддзі — беларускія даследчыкі і чытачы. Пільную ўвагу польскіх вучоных дзейнасць Скарыны прыцягвала да сябе ў XIX стагоддзі. І для ўсіх іх беларускі першадрукар быў Францішкам. Так, у прыватнасці, яго называў Міхал Вішнеўскі, прафесар Ягелонскага універсітэта ў Кракаве (ён прысвяціў Скарыне спецыяльны раздзел у VIII томе "Гісторыі польскай літаратуры", 1851 год).

У рускіх крыніцах імя Скарыны спачатку не ўпаміналася, а потым ён стаў называцца Франциском (Владимиров П. "Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные издания и язык". — СПб., 1888).

У пачатку XX стагоддзя беларускія аўтары называлі Скарыну і Францішкам, і Францыскам. У 1926 годзе ў адпаведнасці з пастановай Савета Народных Камісараў БССР з'явілася ў друку вялікая калектыўная кніга "400-леццe беларускага друку". Аўтары раздзелаў — найбольш буйныя вучоныя. І ўсюды Скарына называецца там Францішкам. Для таго часу гэта была ўжо адзіная ўзаконеная норма. Яна праіснавала, аднак, нядоўга, бо неўзабаве ідэйныя пагромшчыкі і вульгарна-сацыялагічныя фальсіфікатары нацыянальнай культуры аб'явілі ўсю дзейнасць беларускага першадрукара ідэйна шкоднай.

В. Кнорын у 1928 годзе ў артыкуле "Аб рашаючых "дробязях" у вялікім пытанні", што паклаў пачатак пагрому беларускай нацыянальнай культуры, згадвае Скарыну, не называючы яго імя. Забылі імя Скарыны і такія пагромшчыкі, як А. Сянькевіч ("За ленінскую лінію ў нацпалітыцы". "Полымя", 1930, № 11—12) і О. Канакоцін ("Літаратура — зброя клясавай барацьбы". — Мінск, 1931). Першы з іх з пралетарскіх пазіцый няшчадна выкрываў "манахаў Скарыну й Сымона Тураўскага", а другі — Скарыну "й Сямёна Тураўскага".

У 30-я гады забаранялася ўспамінаць Скарыну добрым словам. Такі быў час. Пачынаючы з выступлення Кнорына, рознага роду чыноўнікам і ідэалагічным дзеячам, ад якіх залежаў лёс нашай культуры, уявілася, што іх задача і абавязак — апаганьваць гістарычнае мінулае беларускага народа, чарніць найбольш вядомых дзеячаў розных эпох. Рабілася гэта пад сцягам барацьбы з так званай нацдэмаўшчынай. І, як правіла, у артыкулах або ў кнігах такіх абаронцаў "ленінскай лініі ў нацпалітыцы", што такім чынам ажыццяўлялі "лёзунг" "літаратура — зброя клясавай барацьбы", Скарына называўся без імені. Потым з'явілася ў друку імя Францыск: "Такім "залатым векам" беларускай літаратуры нацыянал-дэмакраты лічылі 15—16 стагоддзе, калі на ніве беларускага "прыгожага пісьменства" "працавалі" такія "выдатныя творцы", як Васіль Цяпінскі, Фёдар Еўлашэўскі, Францыск Скарына і іншыя". (П. Глебка. "Нацдэмаўшчына, замаскаваная марксысцкай фразай". "Узвышша", 1931, № 3, с. 102). Тут ужо сама па сабе нечаканая форма імя Францыск набывала выразны падтэкст: яна павінна была сведчыць, што Скарына з такім імем — гэта чужародная з'ява ў беларускай культуры. (Пры аказіі нагадаю, што П. Глебка стаў членам-карэспандэнтам АН не ў пачатку 30-х гадоў, а ў 1950 годзе).

І толькі ў час Вялікай Айчыннай вайны пачалі лічыць Скарыну адным з заслужаных дзеячаў у гісторыі нашага народа. Але называлі яго Георгіем да другой паловы 60-х гадоў, пакуль не была канчаткова даказана беспадстаўнасць гэтай формы. Праўда, польскі гісторык Генрык Лаўмянскі даказаў гэта раней, у 1925 годзе, але ў Беларусі імя Георгій было амаль што манапольным яшчэ ў 60-я гады. Кніга С. Майхровіча "Георгій Скарына" пабачыла свет у 1966 годзе, пасля чаго ўжо давялося яшчэ раз даказваць тое, што ўжо даўно было даказана.

У пасляваенны перыяд П. Глебка, працуючы ў АН Беларусі, ацэньваў дзейнасць Францішка Скарыны паводле яго рэальных заслуг.

Пастанова бюро Аддзялення грамадскіх навук АН Беларусі ад 1967 года павінна была паставіць апошнюю кропку ў колішніх спрэчках і ўзаконіць адну форму на ўсе часы, зрабіўшы яе кананічнай. І хоць у 1970 годзе Мікола Прашковіч нейкім чынам выдаў для школьнікаў кніжку "Францішак Скарына — беларускі першадрукар", то, аднак, пасля той пастановы больш як два дзесяцігоддзі мы ўсюды чыталі, бачылі і чулі практычна адно імя — Францыск. Першым грунтоўным даследаваннем, якое парушала тую традыцыю, з'явілася манаграфія маскоўскага вучонага Аляксея Каўкі "Тут мой народ. Францішак Скарына і беларуская літаратура XVI — пачатку XX ст. ст.", апублікаваная ў 1989 годзе.

А пакуль што на працягу цэлых двух дзесяцігоддзяў з хвосцікам першадрукара называлі Францыскам розныя акадэмічныя выданні, энцыклапедыі, падручнікі для навучальных устаноў усіх узроўняў. Так імя першадрукара гучала ў час Скарынінскіх чытанняў у кастрычніку 1986 года ў Беларускай акадэміі навук. Усе юбілейныя мерапрыемствы ў 80-х гадах, усе зборнікі матэрыялаў, дакументаў, усе кнігі, у тым ліку і Скарынінская энцыклапедыя, падавалі адну форму — Францыск. У час святкавання юбілею з'явілася ў Мінску вуліца Францыска Скарыны і медаль з гэтым імем. Інакш кажучы, практычна да канца 80-х гадоў мы ведалі толькі Францыска Скарыну. А калі ў кастрычніку 1986 года ў час Скарынінскіх чытанняў я ў спрэчках выступіў і заявіў, што беларускага першадрукара звалі **Францішкам**, а не **Францыскам**, то выглядаў, як той Піліп, што нечакана выскачыў з канапель. І калі рыхтаваўся да друку зборнік дакладаў і паведамленняў, абнародаваных на той канферэнцыі, то для майго крамольнага выступлення месца там не аказалася.

Я ўсё ж такі апублікаваў сваю ерэтычную версію ў акадэмічнай газеце "За перадавую навуку" і ў "ЛіМе". Пасля гэтага А. Жураўскі, колішні дырэктар Інстытута мовазнаўства АН, у артыкуле "Ён зваўся Францыскам" ("ЛіМ", 24 ліпеня 1987) накінуўся на мяне з аргументацыяй, у якой не пашкадаваў мне зняважлівых характарыстык. Так пачалася палеміка, якую А. Жураўскі адразу ж узяўся ператвараць у звычайную сварку. У той самай газеце ён атрымаў адказ у артыкуле "Каму верыць?" ("ЛіМ", 8 студзеня 1988). Там давалася магчымасць самому чытачу разабрацца, каму мы павінны верыць: Скарыне ці Жураўскаму. На гэтае пытанне ў 1989 годзе адказаў А. Каўка ў манаграфіі "Тут мой народ", адназначна заявіўшы, што ён верыць толькі Скарыне.

Пакуль што, аднак, А. Жураўскі адступаць не збіраўся і паспрабаваў шукаць ратунку ў "Чырвонай змене", абнародаваўшы 26 сакавіка 1988 года артыкул "Яшчэ пра імя Скарыны". На старонках той самай газеты знайшлося месца і для адказу. Пасля некаторай перадышкі А. Жураўскі заатакаваў мяне 22 жніўня 1990 года ў газеце "Звязда" артыкулам "Завіце Скарыну Францыскам". І яшчэ раз давялося паказваць, наколькі беспадстаўнай з'яўляецца аргументацыя нашага мовазнаўца.

У А. Жураўскага была надзейная аказія паспрабаваць абараніць сваю версію. У чэрвені 1990 года ў Варшаве адбылася міжнародная Скарынінская канферэнцыя. Сабраліся там найбольш аўтарытэтныя скарыназнаўцы з Беларусі (з аднаго Мінска 9 чалавек, у тым ліку А. Жураўскі, а таксама з Гомеля і Гродна), з Масквы, Ленінграда, Рыгі, з Польшчы, ЗША, Германіі, Балгарыі. Я выступіў з дакладам пра імя Скарыны. А. Жураўскі нават слова не ўзяў, каб хоць што-небудзь аспрэчваць. У той сітуацыі хапіла ў яго развагі, каб не смяшыць прысутных.

Пасля гэтага на працягу пяці гадоў маўчаў мой апанент, але 26 мая 1995 года паспрабаваў яшчэ раз расправіцца са мною на старонках газеты "Рэспубліка" артыкулам "Скарыну ведаюць усе. Аднаго ці двух?"

У свой час на вёсцы мне даводзілася назіраць, як сварлівая кабеціна, ведучы тэмпераментны дыспут, у якасці асабліва важкага аргумента кампанавала з трох пальцаў скульптурную фігуру і выстаўляла сваёй апанентшы. На навуковым узроўні наш А. Жураўскі знайшоў для такой прастораваай кампазіцыі славесны эквівалент: "Але як на паверхні бурлівай ракі заўсёды ўзнімаецца пена, так здарылася і ў Скарыніяне. Супрацоўнік Інстытута літаратуры Акадэміі навук БССР У. Казбярук, пазнаёміўшыся з публікацыямі В. Тумаша, таксама прыйшоў да пераканання, што сапраўднае імя Скарыны Францішак".

Тут я павінен апраўдацца. Пра публікацыю В. Тумаша (С. Брагі) я даведаўся ў працэсе палемікі ад самога А. Жураўскага. За каштоўную інфармацыю я выказаў яму ў друку публічную падзяку, бо ў эмігранцкіх выданнях знайшоў шмат цікавых звестак. А пра імя першадрукара я даведаўся без пасрэднікаў ад самога Скарыны.

У сваім атрыкуле ў "Рэспубліцы" А. Жураўскі, паведаміўшы, што пасля той пастановы бюро Аддзялення грамадскіх навук Беларускай АН у 70-80-х гадах формай Францыск карысталіся ўсе аўтарытэты (а яно так і было), ён з крыўдай вымушаны быў прызнаць: "Але ўжо ў 1989 ў Мінску стварылася Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, адначасова паўстаў Нацыянальны навуковы цэнтр імя Францішка Скарыны і, нарэшце, у 1991 годзе галоўная артэрыя беларускай сталіцы — Ленінскі праспект быў перайменаваны ў "Праспект Францішка Скарыны".

Скарына па старой памяці ячшэ раз аказаўся Францыскам для аўтараў энцыклапедыі "Беларуская мова" (1994). Рыхтаваў яе ў асноўным Інстытут мовазнаўства АН — родны інстытут А. Жураўскага. Затое ж у V томе Біябібліяграфічнага слоўніка беларускіх пісьменнікаў, апублікаваным у 1995 годзе, першадрукар, як і быць павінна, называецца Францішкам. А гэта ўжо нарматыўная крыніца. Што ж датычыць формы Францыск, то яна ўсё больш паскоранымі тэмпамі адыходзіць у гісторыю. З'яўленне яе ў друку (што здараецца ўсё больш і больш рэдка) успрымаецца як анахранізм.

У тым самым артыкуле ў "Рэспубліцы" А. Жураўскі зрабіў небывалае навуковае адкрыццё: "Хоць "доказы" У. Казберука і былі распаўсюджаны газетамі, але спачатку ў беларускім грамадстве яны ніякага рэзанансу не мелі. Імя Францыска Скарыны было прысвоена друкарні выдавецтва АН БССР "Навука і тэхніка", у 1970 годзе быў выпушчаны кінафільм "Я, Францыск Скарына", у 1988 годзе імя Францыска Скарыны атрымаў Гомельскі дзяржаўны універсітэт і г. д.".

Прачытаўшы такое, можна толькі сказаць з захапленнем: "Вось-цо-да, каханенькія, родненькія!" Мае публікацыі з'явяліся ў 1987, 1988, 1990, 1995 гадах, а Жураўскі А. І. цешыцца, што яны не былі ўлічаны ні ў 1967 годзе, калі прысвойвалі імя Скарыны выдавецтву "Навука і тэхніка", ні ў 1970-м аўтарамі фільма, ні ў 1988-м.

Што і як на працягу ўсяго часу намагаецца даказваць А. Жураўскі? Ён піша: "...Для імя Скарыны найбольш апраўданай з'яўляецца форма **Францыск**. Аб гэтым сведчаць перш за ўсё колькасныя паказчыкі ў выданнях самога Скарыны: **Францыск** ужыта 112 разоў, **Францішак** — толькі чатыры разы (г. зн. ужыванне першай формы ў 28 разоў перавышае другую). Не варта скідваць з. разліку і храналогію: **Францішак** — у ранніх выданнях Скарыны, **Францыск** — на працягу ўсяго перыяду дзейнасці першадрукара" ("Яшчэ пра імя Скарыны"). А ў Скарынінскай энцыклапедыі ён канкрэтызуе: "...Яго імя 64 разы зафіксавана ў форме роднага склону **Францыска** (так у тэксце. — **У. К.**), 150 разоў у форме творнага склону **Франциском** (с. 343). "Агульная колькасць зафіксаванага ў стараж. крыніцах імя С(карыны)

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

*З КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ*

# ЛІТАРАТУРНЫМІ СЦЕЖКАМІ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Аляксей Пяткевіч, які нарадзіўся на Стаўбцоўшчыне, даўно і плённа працуе ў беларускім літаратуразнаўстве, беларускай літаратурнай крытыцы. У 1957 годзе маладым чалавекам прыйшоў выкладчыкам на кафедру літаратуры Гродзенскага педінстытута. З таго часу лёс даследчыка літаратуры і звязаны з Гроднам, з Гродзеншчынай. У 1964 годзе Аляксей Міхайлавіч абараніў дысертацыю, прысвечаную псіхалагічнаму аналізу і праблеме характару ў прозе Кузьмы Чорнага. У 1981 годзе выдаў манаграфію "Сюжэт. Кампазіцыя. Характар: Аб прозе Кузьмы Чорнага". Пішучы артыкулы, рэцэнзіі, Аляксей Пяткевіч трымае найперш у полі зроку літаратуру Гродзеншчыны. Свайго роду падсумоўваннем увагі даследчыка да літаратуры блізкага яму рэгіёна сталася зусім нядаўна выдадзеная кніга "Літаратурная Гродзеншчына". Праўда, у большай ступені яна носіць публіцыстычна-краязнаўчы характар. Але гэтым і цікавая.

Аляксей Пяткевіч паслядоўна (узяўшы за аснову храналагічны і геаграфічны падыходы) расказвае пра прыналежнасць гродзенскіх пісьменнікаў той альбо іншай мясцовасці. Складаецца кніга з некалькіх нарысаў, багата насычаных фактамі і іменамі. Услед за даследчыкам мы трапляем у сівую даўніну. "За смугою стагоддзяў" — адкрыццё альбо напамінак пра першыя вядомыя нам сляды прыгожага пісьменства на гродзенскай зямлі. З падказкі літаратуразнаўцы мы дазнаёмся, што на Навагрудчыне і Слонімшчыне, Зэльвеншчыне і Лідчыне, у Карэлічах, Шчучыне і шмат дзе яшчэ прыходзілі на свет рукапісныя кнігі. Прыводзячы ў большасці сваёй шырокавядомыя факты, аўтар пераконвае, што нас чакае сустрэча з аглядам літаратурнай памяці Гродзеншчыны. Менавіта — з аглядам, а не з краязнаўчым падарожжам па знакамітых мясцінах. Чаму б не выбраць другі шлях даследчыцкага аповяду? Чытачу добра вядомыя краязнаўчыя кнігі збіральнікаў літаратурнай памяці Уладзіміра Содаля, Леаніда Пракопчыка, Кастуся Цвіркі, іншых пісьменнікаў. Чытаеш напісанае, апісанае імі — і быццам сустракаешся з роднымі мясцінамі Багушэвіча, Купалы, Міцкевіча. Здавалася б, і тут, у кнізе Аляксея Пяткевіча, павінна прысутнічаць тое ж. Але гэта, пагадзіцеся, права аўтара — выбіраць той альбо іншы шлях раскрыцця гістарычнай праўды.

У выбары Аляксея Пяткевіча таксама ёсць свае станоўчыя бакі. Аўтар як быццам закладвае базу для наступнікаў. Пры гэтым імкнецца ахапіць як мага больш, максімальны абсяг інфармацыі. Тым самым кніга надзвычай карысная ўсё ж і для аматараў літаратурна-краязнаўчых падарожжаў. Сярод іншых раздзелаў вылучаецца аповяд "У пару станаўлення нацыі", які прысвечаны XIX стагоддзю ў гісторыі літаратуры Гродзеншчыны. А. Пяткевіч згадвае Юзафа Крашэўскага, Лявона Зянковіча, Францішка Карпінскага, Цімафея Ліпінскага... Адным штрыхом гаворыць пра тое, што на Гродзеншчыне ў 1-й палове XIX стагоддзя пабывалі Аляксандр Грыбаедаў (Слонім, Ваўкавыск), Пётр Вяземскі (Слонім), Надзея Дурава (Гродна), Іван Катлярэўскі (Ліда). Вось і падказка для руплівых даследчыкаў: вайсковая старонка біяграфіі Аляксандра Грыбаедава альбо шлях Тараса Шаўчэнкі праз Смаргонь. Між іншым, усё ж такі прысутнічае некаторае шкадаванне. Хацелася б пашырэння аповяду, дэталізацыі лаканічных штрыхоў, увядзення ў тэкст дакументальных падрабязнасцяў, краязнаўчага апісання. Узяць, напрыклад, тую ж згадку пра Грыбаедава. Некаторыя падрабязнасці аб повязях вялікага рускага пісьменніка — у публікацыях Сямёна Букчына, у яго кнізе "Народ нам издревле родной...", у фрагментах з нявыдадзенай (а мо і недапісанай?) кнігі Міколы Калінковіча былі надрукаваны ў брэсцкай абласной газеце "Заря".

Найбольш падрабязна А. Пяткевіч расказвае пра повязь з Гродзеншчынай Адама Міцкевіча. Чытаючы гэтыя радкі ў нарысе "У пару станаўлення нацыі", неўпрыкмет падыходзіш да наступных высноў. Не імкнучыся да падрабязнага знаёмства з пісьменніцкімі сцежкамі-дарожкамі, аўтар мог бы акцэнтаваць хаця б невялікую ўвагу на вядомай ужо літаратуры, прысвечанай таму альбо іншаму літаратару.

У меншай ступені чытачу адкрыты малавядомыя імёны, згаданыя А. Пяткевічам. Як, прыкладам, Чэслаў Янкоўскі (1857—1929), польскі паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, літаратурны крытык, аўтар многіх кніг. Нарадзіўся ў маёнтку Паляны (Ашмянскі раён). Жыў тут у 80—90-я гады. З прац Чэслава Янкоўскага асабліва вылучаецца краязнаўчае даследаванне ў 4-х тамах "Ашмянскі павет. Матэрыялы да гісторыі зямлі і людзей". Дзякуючы А. Пяткевічу, большую вядомасць набываюць імёны лінгвіста-манголазнаўцы і этнографа Восіпа Кавалеўскага (нарадзіўся ў Вялікай Берастовіцы) рускага філолага, этнографа і публіцыста Антона Будзіловіча (нарадзіўся ў Гродзенскім раёне), беларускага і рускага мовазнаўцы Ігната Казлоўскага (родам з Гродна).

"Літаратурная Гродзеншчына" Аляксея Пяткевіча прыадчыняе сапраўдныя літаратурныя пенаты краю. І першае такое літаратурнае гняздо — Слонімшчына. Тут нарадзіўся Гальяш Леўчык. Пад многімі яго вершамі знойдзем паметкі: Слонім, Жыровічы, Сялявічы. Зямляк Гальяша Леўчыка — празаік і драматург Кандрат Лейка. Яго п'еса для лялечнага тэатра "Снатворны мак" (Вільня 1912) прысвечана "вясковым дзецям Слонімскага павета". А яшчэ сланімчане Алег Лойка, Васіль Супрун, Мікола Арочка, Уладзімір Ягоўдзік, Іван Чыгрын, Сяргей Чыгрын, Аляксей Якімовіч, Янка Саламевіч... Спіс можна доўжыць. Дарэчы, вось гэтае падкрэсліванне маці-радзіміцы пісьменнікаў — істотная ілюстрацыя не толькі да літаратурнага краязнаўства, але і важны выхаваўчы дадатак да вывучэння беларускай літаратуры (пераканаы: як у школе, так і ў інстытуце). І шкада, што не многія з даследчыкаў ідуць па шляху вызначэння літаратурна-прасторавых межаў. Хіба што спрабаваў даць агляднаю літаратурную біяграфію Міншчыны доктар гістарычных навук Генадзь Каханоўскі (адзін з нарысаў у кнізе "Адчыніся, таямніца часу"). І, канешне ж, вялікую працу ў гэтым накірунку робіць часопіс "Роднае слова", прадстаўляючы літаратурныя карты розных рэгіёнаў (раёнаў) Беларусі. Будзем спадзявацца, што з часам, маючы падтрымку "Роднага слова" ў публікацыях, краязнаўцы (настаўнікі перш-наперш з тых раёнаў) апішуць сцежкі вядомых, славутых і радавых літаратараў па ўсёй нашай маці-Айчыне. А можа для некага штуршком, падказкай стане і праца Аляксея Пяткевіча "Літаратурная Гродзеншчына".

Шчасцем было б для настаўніцкай грамадскасці мець і "Літаратурную Міншчыну", і "Літаратурную Гомельшчыну", і "Літаратурную Віцебшчыну", і... Тым болей, што ўсе падставы на тое ёсць. У кожным з рэгіёнаў працуюць апантаныя, зацікаўленыя літаратурныя краязнаўцы. Мо іх усё ж натхніць вопыт Аляксея Пяткевіча?..

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

ПРЭМ'ЕРА Ў ВЯЛІКІМ



**Прэм'ера балета Глазунова "Раймонда" адбылася ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Ажыццявіў пастаноўку балетмайстар з сусветным імем, народны артыст СССР, лаўрэат Ленінскай і Дзяржаўнай прэміі Юрый Грыгаровіч.**

**НА ЗДЫМКУ: сцэна з балета "Раймонда".**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

# ЯК ЗВАЛІ НАШАГА ПЕРШАДРУКАРА?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**Францыск** (у розных варыянтах) больш за 150".

Гэта — каронны аргумент А. Жураўскага. А якая яго рэальная вартасць? Што мы канкрэтна, на самай справе, бачым у выданнях беларускага першадрукара? Сам Скарына ў адных і тых самых прадмовах і пасляслоўях прыводзіць сваё імя ў назоўным, родным і творным склонах:

1. Псалтырь. Прадмова: "Я, Францишек, Скоринин сын" (назоўны склон); пасляслоўе: Франциска, Скоринина сына" (родны склон).

2. Книга Иова. Прадмова: "Я, Францишек, Скоринин сын"; пасляслоўе: "Франциска, Скоринина сына".

3. Притчи Премудраго Саломона. Загаловак: "Франциском Скориною"; прадмова: "Я, Францишек, Скоринин сын"; пасляслоўе: "Франциска, Скоринина сына".

Тыя ж самыя формы назоўнага і роднага склону выкарыстоўваюцца і ў апошнім выданні Псалтыра (у "Малой падарожнай кніжцы", 1522 г.).

Што мы тут назіраем? А тое, што ў адных і тых самых выданнях адначасова і паралельна самім першадрукаром паслядоўна і нязменна ўжываюцца тры склонавыя формы: Францишек (назоўны склон), Франциска (родны склон), Франциском (творны склон).

З гэтага ўсяго А. Жураўскі робіць глыбокадумны вывад: "Тым часам сучасны вучань пачатковай школы (...) у формах **Францыска** і **Францыскам** убачыць зыходную форму **Францыск**" ("Чырвоная змена"). "Нават калі вучню пачатковай школы прачытаць такія фразы (з імем Франциска і Франциском. — **У. К.**) і затым запытаць, як звалі чалавека, што выдаваў гэтыя кнігі, адказ будзе адзін: Францыск" ("Рэспубліка").

Ніхто не аспрэчыць таго, што вучні пачатковай школы з'яўляюцца небывала надзейнымі арбітрамі. Але ці здолеюць яны разам з А. Жураўскім адказаць на некаторыя пытанні. Наш першадрукар у назоўным склоне называе сябе: "Я, Францишек, Скоринин сын". У тых самых выданнях ва ўскосных склонах яго імя набывае форму Франциска і Франциском. Чаму ж сучасныя вучні разам з А. Жураўскім у гэтых формах бачаць зыходную форму Францыск, а сам Скарына ні разу не даў рады заўважыць яе на працягу ўсёй сваёй выдавецкай дзейнасці? Ці маем права мы з ускосных склонаў, кіруючыся нашымі сённяшнімі ўяўленнямі і нормамі, шляхам мовазнаўчай ці анамастычнай селекцыі выводзіць дзівосную форму Францыск, калі ёсць гатовая скарынінская Францишек (Францішак)?

Некалькі доўгіх стагоддзяў прайшло на нашай зямлі пасля Францішка Скарыны, шмат пакаленняў школьнікаў змянілася, але нікому за ўсе мінулыя стагоддзі не ўдалося вывесці форму Францыск з ускосных склонаў. А калі нарэшце яе вывелі і запусцілі ў такі шырокі ўжытак, то знайшліся недаверкі, якія абвясцілі такі трыумф навуковым пустацветам. І пачуццё крыўды вынаходнікаў не мае ні мяжы, ні меры. Таму А. Жураўскі паспрабаваў мае аргументы, не разглядаючы іх, знішчыць адным магутным ударам: "Такога невуцтва і безадказнай казуістыкі не ведала сусветная мовазнаўчая навука" ("Рэспубліка"). Разгледзеўшы канкрэтныя разважанні і доказы А. Жураўскага, я меў бы права паўтарыць услед за ім, што такога невуцтва не ведае ні адна навука. Але не буду рабіць гэтага, бо свет надзвычай вялікі, і дзе-небудзь, магчыма, ёсць і большае.

У беларускай мове на сучасным этапе такое нечаканае з пункту гледжання сённяшніх нормаў скарынінскае спалучэнне склонавых формаў паставіла перад даследчыкамі цэлую навуковую праблему. А. Жураўскі вырашыў яе так, як вырашыў бы вучань пачатковых класаў. На такі інтэлектуальны ўзровень ён і спускае свае вучоныя разважанні.

У самога першадрукара побач з формай Францишек у назоўным склоне сустракаецца і Франциско (Прадмова да Першай кнігі Царстваў). Гэтым імем, як сцвярджаюць спецыялісты, яшчэ падпісаны партрэт Скарыны ў Кнізе Ісуса Сірахава. Яно ж сустракаецца і ў дакументах чэшскага караля Фердынанда І, дзе Скарына называецца "Maister Francisco".

І яшчэ адна форма сустракаецца ў Скарыны. Яна зашыфравана ў акравершах акафіста "Чесному и всехвальному пророку предтечи и Крестителю господню Иоанну" і акафіста "Пресладкому імени Господа нашего Исуса Христа". Выявіў гэтыя акравершы А. Турылаў і расшыфраваў іх наступным чынам: "ПИСАЛ ДОКТОР СКОРИНИЧ ФРАНЦИСКУС" (у акафісце Яну Хрысціцелю) і "ДЕЛАЛ ДОКТОР СКОРИНИЧ ФРАНЦИСКУС" (у акафісце імю Ісуса. У гэтым апошнім акафісце на самай справе было ФРАНЦІСКОС). (Турилов А. А. "Гимнографическое наследие Франциска Скорины в рукописной традиции". У кн.: Проблемы научного описания рукописей и факсимильного издания памятников письменности. — Л., 1981, с. 241—247).

У гэтых акравершах мы сустракаем лацінскую, але транскрыбіраваную рускім пісьмом форму Францискус (Францiскус). Акрамя таго, у афіцыйных дакументах той пары называлі яго Францышко, Францышка, Францышку ("Францыск Скарына і яго час". Энцыклапедычны даведнік. — Мінск, 1988, с. 568 і 576). Такім чынам, у самога Скарыны і ў тагачасных юрыдычных дакументах мы знаходзім у назоўным склоне некалькі форм яго імя: Францишек, Франциско, Францискус (Францiскус), Францышко, Francicus, Francisco. Але нідзе і ні разу не сустракаецца форма Франциск (Францыск). Ці выпадкова гэта?

А. Жураўскі адкідае ўсе скарынінскія варыянты назоўнага склону, каб узаконіць форму Францыск, якой і тады, і на працягу наступных стагоддзяў не бачыў ніхто. Не знайшоў яе і акадэмік М. Бірыла, які ў сваёй манаграфіі "Беларуская антрапанімія. 3. структура ўласных мужчынскіх імён". (Мн., 1982) пералічвае ўсе формы гэтага імя, знойдзеныя ім у розных пісьмовых крыніцах на працягу стагоддзяў. Форма "Францыск" не сустракаецца ні разу ні ў помніках дзелавой пісьменнасці, ні ў мастацкіх творах ад часоў Скарыны да самага XX стагоддзя, калі яго пазычылі і ўвялі ў навуковы ўжытак.

Больш за два дзесяцігоддзі для Скарыны афіцыйна ўзаконьвалася форма імя Францыск, нягледзячы на тое, што і ў пачатку, і ў канцы сваёй выдавецкай дзейнасці (у 1517 годзе ў Празе і ў 1522 годзе ў Вільні) сам ён пра сябе пісаў: "Я, Францишек..." Так і толькі так мы павінны называць сёння беларускага першадрукара Скарыну.

У пастанове бюро Аддзялення грамадскіх навук АН БССР ад 1967 года імёны Францыск і Георгій стаяць побач. І гэта зусім апраўдана, таму што абодва яны з'яўляюцца аднолькавым анахранізмам.

А як больш правільна гаварыць і пісаць: "скарынінскі" ці "скарынаўскі"? Бо і тут сустракаюцца дзве формы. Прыметнік "скарынінскі" ўтварыўся ад слова "Скоринин", якім карыстаўся сам першадрукар: "Я, Францишек, Скоринин сын..." Па гэтай прычыне такая форма больш падыходзіць. І хоць у гутарковай мове сустаракаем адну і другую формы, аднак больш мэтазгодна карыстацца тою, якая з'яўляецца бліжэйшай для самога першадрукара, гэта значыць, "скарынінскі".

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

*УЛАДЗІМІР ЗАХАРАЎ — КАМПАЗІТАР, ВЫКАНАЎЦА, ПЕДАГОГ*

# ЧАЛАВЕК З ТОНКІМ СЛЫХАМ ДУШЫ



Уладзімір Захараў — адна з найбольш яркіх фігур на гарызонце гітарнага мастацтва Беларусі. Гэта музыкант "ласкаю Божай", які паспяхова спалучае кампазітарскую, выканаўчую і педагагічную дзейнасць. Таленавіты чалавек, як правіла, шматгранны. Шматвектарная "поліфанічная" дзейнасць такіх музыкантаў, як Захараў, сведчыць аб разнастайнасці яго мастакоўскіх інтарэсаў і жаданняў.

Якая ж пуцяводная зорка асвятляе творчы шлях і вядзе па жыцці маладога музыканта? Самому Уладзіміру цяжка адказаць на такое пытанне. Ён не бачыць свайго жыцця без выканаўчай дзейнасці, у якой знаходзіць душэўнае суцяшэнне, сродкі для духоўнага ўзбагачэння і пастаяннага павышэння інтэлекту, няспыннага імкнення да самаўдасканалення. У такой жа ступені дарагая маладому музыканту і кампазітарская творчасць. Нягледзячы на тое, што У. Захараў спецыяльна не вучыўся ў класах кампазіцыі, тым не менш яшчэ ў 1978 годзе заняў першае месца на конкурсе юных кампазітараў у Гродне, прадставіўшы аўтарытэтнаму журы (старшыня Д. Камінскі) "Дзіцячы альбом" для гітары, што складаўся з 12 п'ес. Пачынаючы кампазітар ужо тады, на стартавай пазіцыі, не абмяжоўваўся агульнапрынятымі ў гітарным мастацтве гармоніямі, штрыхамі, прыёмамі ігры. Назвы мініяцюр альбома часам здзіўляюць: "Конік і жаба"; "Мужычок у галёшах"; "У стаматолага"; "Сталактыты" і іншыя. Аўтар ствараў свой "Дзіцячы альбом" у разліку на духоўную і інтэлектуальную акселерацыю юных музыкантаў, якія могуць і павінны ўваходзіць з першых жа крокаў абучэння ў свет сучасных гучанняў з рэзкімі гармоніямі-фарбамі, складанымі метрарытмічнымі схемамі і незвычайнымі прыёмамі ігры.

Наступныя творы Уладзіміра Захарава для гітары пераконваюць, што кампазітарская дзейнасць для гродзенскага музыканта зусім не выпадковая з'ява, не проста яркі эпізод у яго творчасці, а арганічна ўласцівая састаўная частка яго таленту.

Калі ў "Дзіцячым альбоме" аўтар імкнуўся паказаць прыгажосць, грацыю, яркую карціннасць, гумарыстычныя бытавыя сцэны, то "Музыка для гітары", нядаўна выдадзеная ў Гродне, — гэта своеасаблівая малая гітарная анталогія. П'есы, змешчаныя ў гэтым зборніку, Уладзімір Захараў умоўна назваў "Настальгія па Вялікім княстве".

Тэматызму п'ес уласцівы выразнасць і яркая рэльефнасць, поліфанічнасць мыслення аўтара. Кампазітарская творчасць Уладзіміра Захарава сінтэтычная ў лепшым сэнсе гэтага слова. І тым не менш пазначыць асноўныя рысы самабытнасці кампазітарскай творчасці маладога гродзенскага кампазітара няпроста. Таму што сучаснае музычнае мастацтва, з аднаго боку, вельмі складанае, полістылістычнае, а з другога, у ім адлюстравана імкненне да сінтэзу самых разнастайных з'яў і жыццёвых мастацкіх тэндэнцый. У гэтым сэнсе "Музыка для гітары" У. Захарава цалкам адпавядае ўказаным крытэрыям. Аўтар валодае, калі можна так сказаць, даволі тонкім слыхам душы, што чуйна ўлоўлівае ўсе жыццёвыя калізіі сучаснага свету. У творы гітарыста-кампазітара ўкладзена многа духоўных сіл, свяшчэнных думак і агню.

Як выканаўца гродзенскі гітарыст — яркая мастацкая асоба са сваім інтэрпрэтатарскім стылем. Ён валодае даволі шырокім і featured рознабаковым рэпертуарам. У яго ўваходзяць транскрыпцыі І. С. Баха, І. Альбеніса, А. Піацолы і, вядома ж, арыгінальная гітарная музыка "ад сівых часоў і да нашых дзён". Найбольш тыповая структура будовы праграм У. Захарава: першае аддзяленне — творы кампазітараў-класікаў, старадаўняя і рамантычная музыка розных жанраў і форм; у другім — уласныя творы і творы сучасных кампазітараў. Як выканаўца, Уладзімір Захараў не толькі пераконвае, але і бярэ ў палон слухачоў сваім вельмі прыемным, багатым на фарбы выразным гукам; дакладным, спружыністым, пругкім і разам з тым, я б сказаў, вытанчаным рытмам і пераканаўчай натуральнай логікай. Асабліва ярка гэта праяўляецца ў інтэпрэтацыі ўласных твораў. Тут усё прасякнута шчырасцю і свежасцю пачуццяў; кожная дэталь і цэлае адзначана сапраўдным майстэрствавм, а галоўнае — паэтычнасцю.

Уладзімір Захараў — адзін з тых гітарыстаў, выканаўчая сіла і пераканаўчасць якіх праяўляецца не ў бездакорнасці выканаўчай тэхнікі, а ў глыбокім спасціжэнні духу, сутнасці музычнага твора, у жывым творчым інтаніраванні музыкі. Яго гітара шчыра расказвае пра нешта душэўнае, патаемнае, а таму хвалюе слухачоў, прымушае іх суперажываць.

Досыць плённая і педагагічная дзейнасць Уладзіміра Захарава. Мне ўяўляецца, што біблія сапраўднага настаўніка павінна пачынацца са слоў: "Спачатку была любоў". Няма нічога мацнейшага, даражэйшага, больш жаданага, чым святло любові, асабліва да дзяцей, да вучняў і сваіх калег, выказанае ў пэўным духоўным эквіваленце.

У Гродзенскім музычным вучылішчы, дзе Уладзімір Іванавіч сее разумнае, добрае, вечнае, ён бясспрэчны аўтарытэт. Вучні ў яго розныя і па характару, тэмпераменту, і ступені адоранасці, але настаўнік іх усіх прымае і любіць і карыстаецца ўзаемнасцю. Асаблівы гонар Уладзіміра Іванавіча (хоць ён таго ніколі адкрыта не выказвае) — яго выхаванец Дзяніс Асімовіч — сляпы музыкант, але таксама па-рыцарску адданы свайму інструменту, як і яго настаўнік. Ён уражвае слухачоў, як і яго артыст-педагог, уменнем узвысіць знаёмае, звыклае да сапраўднай паэтычнасці. Дзяніс Асімовіч надзелены філасофскім складам розуму. Ён не схільны да ўплыву звыклых канонаў ні ў інтэрпрэтацыі музыкі, ні ў поглядах і меркаваннях пра музычнае мастацтва ўвогуле, гітарнае — у прыватнасці. Як і яго настаўнік, Дзяніс дабіўся прызнання на сусветнай арэне гітарнага выканаўства, стаўшы двойчы лаўрэатам міжнародных конкурсаў, тым самым зрабіў свой пасільны ўклад ва ўзвелічэнне мастацтва роднай Беларусі. Маючы нават толькі аднаго такога вучня (цяпер Дзяніс Асімовіч — студэнт Беларускай акадэміі музыкі), з поўнай падставай Уладзімір Захараў можа лічыць, што і як педагог-музыкант ён адбыўся.

Пачынаючы з 60-х гадоў нашага стагоддзя некаторыя найбольш гарачыя прыхільнікі рацыянальных метадаў абучэння і глыбокага аналізу выканаўчага майстэрства прапанавалі лозунг: "Наперад да Баха!" Што маецца на ўвазе і якая субстанцыя гэтага лозунга? У часы Баха, нават і пазней, прафесіянальныя музыканты ўяўлялі сабой нейкі сімбіёз, трыліснік; інакш кажучы, у адной асобе былі: стваральнік музыкі — кампазітар, яе тлумачальнік — выканаўца і музыкант, які рыхтуе сабе змену, — настаўнік. Менавіта такая творчая асоба ў той час магла задаволіць сацыяльныя запатрабаванні грамадства. Далейшая дыферэнцыяцыя некалі адзінай спецыяльнасці мела свае вартасці і сур'ёзныя недахопы. Музыканты сталі скептычна ставіцца да вузкай спецыялізацыі. З'явіўся едкі афарызм: "Хто ўмее ствараць музыку — стварае яе; хто ўмее добра выконваць — прапагандуе, а хто не ўмее ні таго, ні іншага — вучыць".

Уладзімір Захараў укладваецца ў каардынаты жаданага сінкрэтызму: ён стварае музыку, выконвае яе і вучыць разумець, цаніць і любіць музычнае мастацтва. Да чаго б ні дакранаўся таленавіты чалавек У. Захараў, на ўсім застаецца яркая пячаць яго індывідуальнасці, а пік на вяршыні мастацтва — гітара.

**Міхаіл СОЛАПАЎ,**
**прафесар Беларускай акадэміі музыкі,**
**заслужаны дзеяч мастацтваў**
**Рэспублікі Беларусь.**

ВЯРТАННЕ СВЯТЫНІ

# ТУТ УВЕСЬ МОЙ РОД ХРЫСЦІЛІ

Мая суседка Ганна Канановіч неяк чатыры гады назад звярнулася да мяне перад Радаўніцай:

— Вельмі хачу з'ездзіць на радзіму і ўпарадкаваць там магілкі сваіх родных і блізкіх. Хачу, але баюся адна, хворая, ехаць. Можа, вы са мною паехалі б?

Вольны час у мяне быў, і я ахвотна згадзіўся. У канцы Маладзечна дачакаліся аўтобуса, які ехаў у вёску Груздава, уціснуліся ў яго і рушылі ў дарогу.

А вось і патрэбны нам прыпынак. Выйшлі ў вёсцы. Мой позірк прабег па хатах і дварах і спыніўся на абамшэлай драўлянай будыніне, якая сіратліва стаяла на ўзгорку і, здавалася, вось-вось рассыплецца. З першага позірку здагадаўся, што гэта царква, хоць па свайму выгляду і запусценню яна не адпавядала назве. Без крыжа і купала, абгароджана ветрам, з вырванымі дзвярыма, прагнілым дахам, з якога тырчэлі голыя, як рэбры ў шкілеце, кроквы. Яна слепа і невідушча глядзела выбітымі вокнамі на вёску і нібы дакарала людзей:

— Што ж вы з мяне зрабілі? Я колькі ж вам служыла за свой доўгі век?

— Калі была пабудавана гэтая царква? — спытаў я ў суседкі. — Колькі гадоў яна тут стаіць?

— Не гадамі, а вякамі стаіць, — здзівіла яна мяне. — Толькі яна за гэты доўгі час шмат разоў руйнавалася, зноў аднаўлялася і пачынала сваё ранейшае святое жыццё. А цяпер, бачыце, што ад яе засталося. Вядома, дрэва не вечнае, гэта не камень... Але ўсё ж яна перажыла і рэвалюцыю, і грамадзянскую вайну, і нашэсце фашысцкіх захопнікаў... І раптам у пасляваенны час мясцовыя кіраўнікі царкву закрылі, абрабавалі і зрабілі ў ёй склад для ўгнаенняў...

Ганна Аляксандраўна па звычцы перахрысцілася перад апаганеным будынкам царквы, дакранулася хусцінкай да вачэй.

— Тут увесь мой род з вякоў у вякі хрысцілі, вянчалі і адпявалі. У гэтай царкве хрысцілася і вянчалася я.

У той дзень я ад суседкі даведаўся пра гісторыю груздаўскай царквы, узноўленую і пацверджаную гістарычнымі хронікамі, Баркалабаўскім летапісам, гісторыкам Міколам Ермаловічам, вядомым знаўцам гісторыі нашай Беларусі.

Вось яна, гісторыя-паданне.

У 1433 годзе, паводле гістарычных крыніц, паміж вёскамі Капачы, Груздава і Палачаны адбылася жорсткая міжусобная бітва войскаў Свідрыгайлы і Жыгімонта. У войску Жыгімонта ўдзельнічалі ў сечы наёмныя татары, вопытныя і смелыя воі. І ўсё ж войскі Свідрыгайлы перамаглі. Бітва была вельмі крывавая, бо нават з тых далёкіх часоў па сённяшні дзень месца, дзе яна кіпела, захавала назву — Чырвоныя Валокі. У гэтай бітва з боку Свідрыгайлы загінула шмат беларусаў. Сярод іх быў і князь смаленскі Андрэй Саковіч. І раптам, паводле старажытнай хронікі, праз нейкі час пасля бітвы, на здзіўленне тамтэйшых гараджан, ён з'явіўся жывы ў Полацку.

І вось што даведаліся жыхары гэтага горада ад князя Андрэя. Ён быў цяжка паранены ў сечы. Войскі Свідрыгайлы ў гэты момант цярпелі паражэнне, адступалі. І раптам перад вачыма князя ўзнікла ікона Божай Маці: "Не кідай войска. Дай загад сваім воям, і вы пераможаце", — нібы праз сон ён пачуў голас. Князь даў загад войску трымацца да канца і страціў прытомнасць. Ноччу апрытомнеў, сабраўся з апошнімі сіламі і дапоўз да таго месца, адкуль пайшлі на сечу беларусы. Там ён раптам убачыў пакінутую ікону Божай Маці, прыпаў да яе вуснамі, і зноў над ім згусціўся змрок. На другі дзень сяляне прыйшлі на месца бітвы хаваць забітых і знайшлі сярод іх князя Андрэя. Ён нерухома ляжаў і трымаўся рукамі за ікону. Нябожчыка падцягнулі да ямы, каб яго пахаваць, але не маглі з іконаю, якую князь моцна трымаў у руках, пакласці ў магілу. Пачалі разгінаць яго пальцы, каб вызваліць з іх ікону, але раптам адчулі, што рукі ў мёртвага князя цёплыя. Неўзабаве ён зноў апрытомнеў. Сяляне павезлі цяжкапараненага князя ў вёску Блудава да знаёмага лесніка, які разам з дачкою выхадзіў князя, паставіў яго на ногі. А потым князь дабраўся да Полацка і там абвясціў, што выратавала яго ў бітве ікона Божай Маці. Калі б не яна, яго скінулі б жывога ў магілу. З Полацка князь пераехаў у Смаленск. Там ён змайстраваў з вернікамі адмысловы зруб і перавёз яго ў Груздава пад забудову храма. І неўзабаве на месцы той сечы вырасла Груздаўская царква, у якой была і змешчана ікона Божай Маці, якая выратавала князя ад смерці...

З таго часу ікона стала святыняй не толькі праваслаўных вернікаў-беларусаў. Да яе ішлі, каб пакланіцца, з Украіны, Чэхіі, Балгарыі, іншых славянскіх краін. Для паклону іконе нават быў прызначаны асобны дзень — фэст, які праходзіў 3 ліпеня кожнага года. Так працягвалася доўгія гады, ажно да прыходу савецкай улады. Потым была вайна і пасляваенныя гады. І раптам царкву, якая была ці не самай старажытнай драўлянай царквою на Беларусі, закрылі і разбурылі. Знікла і ікона Божай Маці. І толькі вялікімі намаганнямі тутэйшых прыхаджан-вернікаў яна была знойдзена, адрэстаўрыравана і знайшла сабе часовы прытулак у Палачанскай царкве. І чакала таго дня, каб зноў вярнуцца ў Груздаўскі храм і заняць у ім сваё ранейшае пачэснае месца.

І такі дзень наступіў.

Пасля наведання вёскі я напісаў і змясціў у мясцовым друку артыкул аб пакутным лёсе Груздаўскай царквы і асірацелай святой іконе Божай Маці. Ён стаў нібы тым каменьчыкам, які сарваўся з гары і пачаў зрушваць з месца, падаючы, коцячыся ўніз, іншых: у навакольных вёсках актыўна пачалі збіраць ахвяраванні на адбудову храма. Усе неабыякавыя да лёсу царквы і святой іконы людзі ўключыліся ў збор сродкаў. Збіралі доўга і старанна. Але ахвяраванняў было ўсё ж малавата, каб аднавіць царкву. І тут прыхаджанам вельмі пашанцавала: вялікую суму грошай ахвяраваў багаты госць з Расіі, які прыехаў у вёску Паляны наведаць радзіму. Не засталося ў баку і мясцовае начальства. Райвыканком, сельсавет і калгас адпусцілі на аднаўленне царквы будаўнічыя матэрыялы, накіравлі на будоўлю цесляроў і муляраў... І, бадай, самы актыўны ўдзел у адбудове Груздаўскай царквы прынялі мітрапаліт Філарэт і святары маладзечанскай праваслаўнай царквы.

Неўзабаве навакольныя вёскі абудзіў царкоўны звон — Груздаўская царква пачала служыць вернікам! З Палачан была вернута на сваё месца святая ікона Божай Маці, якая за свае доўгія гады перанесла столькі пакут. Занялі ў царкве свае месцы і каштоўныя царкоўныя рэліквіі, якія захавалі да лепшага часу мясцовыя прыхаджане.

Плыве над вёскамі царкоўны звон, кліча людзей у храм, абуджае ў іх веру ў Бога, у лепшы час, у лепшую долю, заклікае да дабрыні і спагады...

А з амбону гучаць з вуснаў святара словы падзякі тым, хто аднавіў храм і вярнуў у яго нашу беларускую святыню — ікону Божай Маці.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

# ЯК НАШЫ ХЛОПЦЫ — ЯЎГЕН ЮНОЎ ДЫ ІГАР ДРОЗД ЗДЗІВІЛІ СВЕТ

Штогадовы міжнародны фестываль рэкламы "Канскія Львы" — самая значная падзея ў рэкламным бізнесе. Менавіта канскі форум — заканадаўца моды ў свеце. Узнагароду, атрыманую ў Канах, любы чалавек, што працуе ў рэкламе, гэтак жа, як і любое рэкламнае агенцтва, ставяць на першае месца ў спісе сваіх дасягненняў. Поўнай нечаканасцю для большасці сваіх рэкламнага бізнесу стала перамога маладых беларускіх крэатараў Яўгена Юнова ды Ігара Дразда ў альтэрнатыўным конкурсе.

Колькі год таму ў праграму фестывалю быў уключаны конкурс, арганізаваны з мэтай прываблiць у Каны творчую моладзь. У гэтым конкурсе могуць удзельнічаць маладыя людзі да 30 гадоў. У камандах — не болей як два чалавекі ад краіны. Яны атрымліваюць заданне непасрэдна на фестывалі і на працягу сутак, маючы ў сваім распараджэнні камп'ютэр, павінны прадставіць аб'яву альбо плакат па зададзенай тэме. Узнагароды маладым пераможцам — не залатыя і сярэбраныя Львы, а камп'ютэры "Макінтош" і аплачаныя за кошт арганізатараў паездкі ў Каны на наступны год.

Але колькасць каманд абмежаваная: на апошнім фестывалі іх было 27 — і далёка не кожная краіна можа прадставіць сваю каманду. Разумеючы гэта, арганізатары форуму "Канскія Львы-97" правялі новы конкурс — "Альтэрнатыўны выклік творчай моладзі". Удзел у ім быў адкрыты для кожнай маладой крыві ў Канах з амбіцыяй, энергіяй і жаданнем быць заўважаным.

Заданні раздаваліся адразу пры рэгістрацыі на фестывалі. На выкананне адводзілася два дні і тры гадзіны працы на камп'ютэры.

На аснове творчай канцэпцыі, прадстаўленай фондам "One World Foundation," патрабавалася стварыць рэкламны макет для авіякампаніі альбо для кампаніі, якая вырабляе прахаладжальныя напоі. Абедзве гэтыя кампаніі па ўмовах конкурсу павінны быць зарыентаваны на этычныя агульначалавечыя каштоўнасці. У выніку вышэйшую ўзнагароду сярод 15 каманд атрымала каманда Беларусі. Яна бліскуча разрэкламавала новую марку колы.




"Першы прыз быў прысуджаны за лепшую з лепшых канцэпцыю, якая можа быць з поспехам адаптавана для любой колькасці контрсітуацый", — так сказаў пра работу пераможцаў спадар Джуліан Дэй, адзін з арганізатараў канскага форуму.

Бязмежна шчаслівымі выглядалі Яўген Юноў і Ігар Дрозд, атрымліваючы з рук прэзідэнта фестывалю запаветныя бясплатныя акрэдытацыі на фестываль наступнага года. Не хавалі і сваіх намераў, раздаючы інтэрв'ю заходнім журналістам: "Мы прыедзем праз год, каб пазмагацца за "Канскія Львоў"...

Пажадайма ж поспехаў і ўдачы таленавітым землякам, якія прасеклі акно ў рэкламны свет планеты.

**Георгій ЧЫГІР.**
("Народная газета").



Міжнародная Акадэмія вывучэння нацыянальных меншасцей | International Academy of National Minorities' Research

Брэсцкая аб'яднаная рэгіянальная арганізацыя Згуртавання беларусаў свету "БАЦЬКАЎШЧЫНА" | Brest United Regional Organization of the World Association of Belarusians "BATSKAUSHTCHYNA"

2—3 красавіка 1998 года адбудзецца VI Міжнародная навуковая канферэнцыя па нацыянальнай адукацыі: "АДУКАЦЫЯ ДЫЯСПАР".

На канферэнцыю выносіцца абмеркаванне наступных пытанняў:

1. Адукацыя дыяспар (нацыянальных меншасцей) Беларусі: гісторыя, сучасны стан і шляхі ўдасканалення.
2. Роля адукацыі ў жыцці беларускай дыяспары.
3. Уплыў канфесійнай прыналежнасці на адукацыю дыяспар.
4. Месца беларусазнаўства ў адукацыйным працэсе дыяспар.
5. Полікультурная адукацыя і яе роля ва ўдасканаленні навучальнага працэсу і захаванні нацыяльнай саматоеснасці дыяспар.

Тэзісы дакладаў ці невялікія артыкулы аб'ёмам да 5 старонак машынапіснага тэксту, надрукаваныя праз два інтэрвалы, дасылайце, калі ласка, у 2-х экземплярах да 15 кастрычніка 1997 года на адрас:

**Беларусь. 224030. г. Брэст-30. Аб. скрыня № 14. Праф. Яцкевічу С. А.**

Паколькі атрыманыя матэрыялы будуць перадрукоўвацца, прытрымлівацца пэўных норм іх афармлення неабавязкова, але неабходным з'яўляецца патрабаванне змястоўнай адпаведнасці дасылаемых матэрыялаў тэматыцы канферэнцыі, іх арфаграфічнай і стылістычнай дакладнасці. Аргкамітэт будзе ўдзячны тым аўтарам, якія змогуць прадставіць свой матэрыял у надрукаванай форме разам з дыскетай (тэкставы рэдактар Word 2, 6; вяртанне дыскеты гарантуецца). Да матэрыялаў трэба прыкласці аўтарскую даведку з указаннем імя і прозвішча, вучонай ступені і звання, акадэмічнага звання (калі ёсць), месца працы і пасады, адраса і тэлефона.

Рэдкалегія пакідае за сабою права адбору матэрыялаў і (пры неабходнасці) іх рэдагавання. Зборнік матэрыялаў удзельнікаў канферэнцыі плануецца выдаць да пачатку яе правядзення.

**Тэлефон для даведак: 26-25-14 (код г. Брэста 8-0162).**

**АРГКАМІТЭТ.**

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ



Да вас з вялікай просьбай звяртаецца пенсіянерка **САЛАВЕЙ Марыя Сямёнаўна** аказаць дапамогу ў пошуку маіх дваюрадных братоў, якія жывуць у ЗША.

Мой дзядзька **ЯШЧЭНЯ Яфім Ерамеевіч** і цётка **ЯШЧЭНЯ Фядора** разам з маімі бацькамі — бацька **КАПАЧЭНЯ Сямён Яфімавіч**, маці — **КАПАЧЭНЯ Акуліна Ерамееўна** — у 1913 годзе паехалі ў ЗША з вёскі Языль Старадарожскага раёна Мінскай вобласці і жылі ў горадзе Нью-Йорку. Я там нарадзілася ў 1915 годзе, а ў 1924-м наша сям'я па стану здароўя вярнулася на радзіму, а мой дзядзька ЯШЧЭНЯ Яфім Ерамеевіч разам з жонкай і дзецьмі застаўся ў Нью-Йорку. Перапіска спынілася з 1937—1938 года. Дзядзька меў чатырох сыноў і дачку. Сыны — Іван (Джон), Аляксандр, Мікалай, Кацярына (Кэці). Апошняга, чацвёртага сына імя не ведаю.

Высылаю фатаграфію траіх братоў (даваенная) і перакенаўча прашу паспрабаваць знайсці іх, вельмі хочацца сустрэцца з імі. Могуць пражываць пад прозвішчам ЯШАНКА, ЯШЫНСКІ, ЯШЧЭВІЧ.

**Пісаць на адрас: Рэспубліка Беларусь, Мінская вобласць, Старадарожскі раён, вёска Языль, САЛАВЕЙ Марыі Сямёнаўне**
або
**Мінская вобласць, г. Старыя Дарогі, вул. Камсамольская, 18-34. САЛАВЕЙ Аляксандру Іванавічу.**

## *ТРАДЫЦЫІ ЗАСТАЮЦЦА*



**На фатаграфіі — тры пакаленні ткачых з Браслаўскага Дома рамёстваў. Аліна ЧАПУЛЁНАК — адна са старэйшых майстрых Браслаўшчыны. Многія гады перадае яна свой багаты вопыт моладзі. Яе вучаніца Антаніна КАВАЛЫК ужо сама вучыць дзяцей прамудрасцям ткацтва і пляцення паясоў. Увесь вольны час праводзяць каля яе Маша ЦІМОШКІНА, Іра МАРОЗАВА, Анжэла ЛАПКО, Вераніка ФРАНГУ, спасцігаючы "хітрасці" і тонкасці ткацтва. Не згаснуць народныя традыцыі на Браслаўшчыне.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1015. Падпісана да друку 21.7.1997 г. у 12.00. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.